

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 19 мая 1989 г. № 20 (3482) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## ТВОРЧЫЯ САЮЗЫ І ПЕРАБУДОВА

**У Доме літаратара адбылося сумеснае пасяджэнне сакратарыятаў творчых саюзаў рэспублікі, на якім абмяркоўвалася падрыхтоўка да аб'яднанага пленума.**

**Пасяджэнне вёў першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Н. Гілевіч. Выступілі: ад Саюза мастакоў БССР — У. Стальмашонак і А. Даўгяла, ад Саюза архітэктараў БССР — Я. Кавалеўскі, ад Саюза кампазітараў БССР — І. Лучанок, ад Саюза журналістаў БССР — М. Дзялец, ад Саюза тэатральных дзеячаў БССР — А. Дудараў і Р. Янкоўскі, ад Саюза кінематаграфістаў БССР — В. Нікіфараў і А. Белавусаў. У пасяджэнні прыняў удзел і выступіў загадчык сектара ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ А. І. Бутэвіч.**

**Прынята рашэнне правесці аб'яднаны пленум праўленняў творчых саюзаў на тэму «Месца і роля творчых саюзаў рэспублікі ў перабудове» ў кастрычніку 1989 года. Створана рабочая група з прадстаўнікоў творчых саюзаў, якой даручана рыхтаваць пленум.**

## ДЗЕВЯТАЯ ЎСЕСАЮЗНАЯ...

**Канферэнц-зала маскоўскай гасцініцы «Арляня» звыклая да шумных дэбатаў, сутыкненняў розных поглядаў, гарачых і бескампрамісных маналогаў. Тым не менш, і для яе гэтыя майскія дні сталі незвычайнымі. Як ніколі раней, дыскусійна праходзіць чарговая сустрэча маладых паэтаў, празаікаў, публіцыстаў, крытыкаў, перакладчыкаў краіны, што прыехалі сюды на IX Усесаюзную нараду маладых пісьменнікаў.**

**Заняткі праходзяць у 35 семінарах, якімі кіруюць прызнаныя майстры сваёй справы — вядомыя паэты, празаікі, публіцысты, крытыкі, перакладчыкі. Гэта не толькі маскоўскія літаратары, але і прадстаўнікі саюзных рэспублік. У прыватнасці, ад Беларусі настаўнікамі паехалі А. Кудравец і У. Някляеў.**

**Сярод 300 удзельнікаў нарады — восем з нашай рэспублікі: М. Арэхаў, С. Булыга, А. Лукашук, А. Наварыч, Л. Пранчак, А. Сыс, Г. Тычка, А. Федарэнка.**

**У праграме нарады — абмеркаванне твораў, літаратурныя вечары, сустрэчы маладых творцаў з вучонымі, грамадскімі дзеячамі, выдавецкімі работнікамі.**

## Памяці Цішкі Гартнага

У Магілёве адбыўся літаратурна-мастацкі вечар, прысвечаны памяці Цішкі Гартнага. Актавую залу бібліятэчнага тэхнікума запоўнілі студэнты і выкладчыкі гэтай і іншых навучальных устаноў горада, рабочая моладзь, творчая інтэлігенцыя. Тут жа была наладжана кніжная выстаўка.

Даклад аб жыцці і творчасці пісьменніка зрабіў загадчык кафедры беларускай літаратуры педінстытута імя А. Куляшова В. Атрашкевіч. З успамінамі аб Ц. Гартным выступіў паэт, былы вязень сталінскіх турмаў і лагераў С. Грахоўскі. Э. Ялугін расказаў аб сваёй працы над аповесцю пра Ц. Гартнага. Сакратар абласнога аддзялення СП БССР І. Аношкін гаварыў аб неабходнасці ўвекавечыць на Магілёўшчыне памяць Ц. Гартнага і пісьменнікаў-землякоў П. Галавача, Ю. Лявоннага, В. Каваля, Б. Мікуліча, рэпрэсіраваных у часы сталінізму. Выкладчыца культасветвучылішча Т. Раманькова расказала пра збор матэрыялаў аб жыцці і творчасці Ц. Гартнага, прачытала некалькі ягоных вершаў.

З літаратурнай кампазіцыяй выступілі артысты Краснапольскага народнага тэатра «Ранак».

У вечары прынялі ўдзел сакратар Магілёўскага гаркома партыі Л. Н. Іванішчанка і намеснік старшыні гарвыканкома К. П. Крупенькін.



# Васіль ШАРАНГОВІЧ: «Я—ЗА ВЫХАВАННЕ ПРАЎДАЙ»

**У беларускіх графікаў ёсць такое паняцце: «Школа Шаранговіча», што азначае — высокі прафесіяналізм, веданне традыцый і адчуванне сучаснасці, нацыянальная адметнасць. Школу Шаранговіча прайшлі многія графікі Беларусі, выпускнікі Беларускага тэатральна-мастацкага — ад даўніх, ужо сталых, вядомых майстроў да леташніх выпускнікоў, якія пакуль што заявілі аб сабе, бадай, толькі дыпломнымі работамі. Прычым варта адзначыць адну характэрную асаблівасць: з аддзялення графікі БДТМІ выходзяць мастакі разнапланавыя, з выразным уласным почыркам. Ад настаўніка яны бяруць не вонкавае, не выпрацаваныя ім прыёмы, а дух творчага пошуку і годнасць прафесіянала, якая не дазваляе ні ў якім выпадку рабіць сваю справу абы-як. Высокі ўзровень прафесійнай адукацыі ў БДТМІ быў, дарэчы, адзначаны прэзідэнтам Акадэміі мастацтваў СССР Б. С. Угаравым у час нядаўняга наведання інстытута, калі ў Мінску праходзіла пашыранае пасяджэнне прэзідыума Акадэміі мастацтваў.**

**З пытання аб гэтай падзеі пачалася наша гутарка з заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі, прарэктарам БДТМІ, прафесарам В. П. Шаранговічам.**

**— Васіль Пятровіч, якія вашы ўражанні ад работы пашыранага пасяджэння прэзідыума Акадэміі мастацтваў і ад выстаўкі студэнцкіх дыпломных работ мастацкіх ВНУ краіны, што была прымеркавана да гэтага пасяджэння?**

— Спачатку — пра выстаўку. Гэта была значная культурная з'ява. Грамадскасць Мінска і рэспублікі мела магчымасць пазнаёміцца са станам мастацкай адукацыі нашай краіны. Ну, а на пасяджэннях прэзідыума мы, работнікі вышэйшай мастацкай школы, змаглі абмяняцца думкамі аб праблемах, што хвалююць нас сёння, прыняць рашэнні, якія паспрыяюць паляпшэнню выхавання творчай моладзі.

У галіне мастацкай адукацыі і эстэтычнага выхавання пакуль што, на мой погляд, не адчуваецца, што скончыўся застой і пачалася перабудова. У вышэйшым звяне мастацкай адукацыі мала руху. Мы карыстаемся застарэлай метадалогіяй. Замест знясільваючых доўгачасовых акадэмічных пастановак павінны быць вучэбныя заданні, якія дазваляюць не толькі набыць прафесійныя веды, але і як мага хутчэй раскрыць творчы патэнцыял студэнта. Выстаўка выявіла тэндэнцыю да «ўсярэдненасці» ўзроўню мастацкіх ВНУ краіны. Перад усімі мастацкімі інстытутамі і акадэміямі краіны сур'ёзна стаіць праблема пераемнасці нацыянальных традыцый. Ужо ў сценах ВНУ ў студэнтаў павінен быць выхад на творчасць, на самастойнае мысленне. Калі гэтага не адчувалася на выстаўцы, значыць, няма яго і ў навучальным працэсе.

Наш раздзел на ўсесаюзнай выстаўцы мог бы быць больш цікавым. Жыццё паказвае, што найбольш ярка раскрываецца талент тых нашых выпускнікоў, якія ў творчасці стаяць бліжэй да народных крыніц, да нацыянальных традыцый — такіх, скажам, як графік Савіч, жывапісец Марачкін, скульптар Янушкевіч.

**— На пасяджэнні прэзідыума акадэміі ішла гаворка пра «Палажэнне аб мастацкай ВНУ»...**

— Пакуль што існуе толькі праект. «Палажэнне» павінна забяспечыць большую самастойнасць вышэйшай мастацкай школы. У ім будуць занатаваны толькі асноўныя прынцыповыя палажэнні, а астат-

(Працяг на стар. 13).

*25 мая ў Маскве адкрываецца З'езд народных дэпутатаў СССР*

# ЛІЧУ СВАІМ АБАВЯЗКАМ...

**У рабоце першага ў гісторыі нашай краіны З'езда народных дэпутатаў СССР прымуць удзел і каля ста пасланцоў Беларусі, выбраных як па выбарчых акругах, так і ад грамадскіх арганізацый.**

**Рэдакцыя «ЛіМа» звярнулася да групы народных дэпутатаў, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі рэспублікі, з просьбай падзяліцца сваімі дэпутацкімі планамі, расказаць у некалькіх словах аб тым, што іх перш за ўсё хвалюе і што яны маюць на мэце зрабіць як народныя абраннікі для развіцця нашай нацыянальнай культуры.**



**Васіль БЫКАЎ, народны пісьменнік Беларусі:**

— Лічу сваім абавязкам садзейнічаць вырашэнню галоўных пытанняў грамадска-палітычнага жыцця. Маю на ўвазе перш за ўсё далейшае развіццё галоснасці, вызваленне органаў масавай інфармацыі з-пад кантролю і ўціску бюракратыі ўсіх рангаў. Буду разам з іншымі дэпутатамі дамагацца, каб Закон аб друку як мага хутчэй быў вынесены на ўсенароднае абмеркаванне.

У пытаннях культурнай палітыкі, якія, безумоўна, будуць разглядацца на З'ездзе, першачарговай увагі патрабуе, на мой погляд, развіццё нацыянальных культур і нацыянальных моў.

Паколькі я выбраны дэпутатам ад творчага саюза, у мяне ёсць намер узняць праблему абароны грамадзянскіх і прафесійных правоў членаў Саюза пісьменнікаў. Не сакрэт, што зараз гэтыя правы часта з'яўляюцца фармальнымі, а нярэдка і парушаюцца. Пры гэтым, як ні парадаксальна, парушаюцца яны і тымі арганізацыямі і ведамствамі, якія нясуць адказнасць за падтрыманне законнасці і правапарадку.

Трэба, я лічу, перагледзець як незаконныя ўсе рашэнні аб пазбаўленні пісьменнікаў, якія цяпер знаходзяцца ў эміграцыі, грамадзянства СССР. Усе яны павінны мець магчымасць вярнуцца на радзіму.

Вельмі важна, на маю думку, наогул перагледзець большасць законаў і нарматыўных актаў, прынятых Вярхоўным Саветам СССР ранейшых скліканняў.

Лічу неабходным стварыць у новым Вярхоўным Савеце спецыяльную камісію па расследаванні ўсіх абставін прыняцця рашэння аб уводзе кантынгента нашых войскаў у рэспубліку Афганістан. Я ўпэўнены—павінны быць абнародаваны ўсе страты і выдаткі, панесеныя намі ў гэтай вайне: людскія, матэрыяльныя, фінансавыя.

Пакуль цяжка меркаваць, як будзе складацца сітуацыя на З'ездзе народных дэпутатаў. Мне ясна адно—пры абмеркаванні і прыняцці ўсіх заканадаўчых ініцыятыў вельмі важна супрацоўнічаць паміж сабой дэпутатам-дзеячам культуры, а таксама дэпутатам ад нашай рэспублікі з прадстаўнікамі братніх рэспублік. Ад кансалідацыі ўсіх прагрэсіўных сіл залежыць, наколькі моцным будзе наш новы парламент.



**Ігар ЛУЧАНОК, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР, народны артыст СССР:**

— З хваляваннем чакаю адкрыцця З'езда народных дэпутатаў СССР. Такі адказнейшы форум праводзіцца ў нас упершыню, і мы, народныя дэпутаты, і тыя, хто нас абраў, ускладаем на яго вялікія надзеі.

Галоўнае — пазбегнуць у яго рабоце старых стэрэатыпаў, калі нехта вызначаў палітыку, а нехта паслухмяна за яе галасаваў. Хопіць ужо нам пустых размоў, не падмацаваных справамі. Як трапна сказаў неяк Расул Гамзатаў, з якім мы пішам песню, — «Паміж словам і справай у нас часам стаіць вялікая гара». Важна, на маю думку, выбраць на з'ездзе кампетэнтны ва ўсіх пытаннях палітычнага і эканамічнага жыцця краіны Вярхоўны Савет, дзе б панаваў плюралізм думак, захоўвалася б поўная галоснасць.

У мяне могуць спытаць, як я асабіста буду выбіраць Вярхоўны Савет, калі не ведаю ўсіх дэпутатаў, не ведаю, хто чаго варты. Так, вартасці ўсіх народных дэпутатаў добра ўяўляе сабе, як будуць размежаваны рабочыя і заканадаўчыя функцыі з'езда і будучага Вярхоўнага Савета.

Хочацца спадзявацца, што ў якасці народнага дэпутата СССР я буду мець магчымасць уплываць на дзяржаўную палітыку, быць карысным народу. У любым выпадку я ў меру сваіх магчымасцей буду спрыяць прыняццю законаў, накіраваных на аздараўленне нашага грамадства, на абарону чалавечай годнасці, на развіццё культуры. Культура для мяне—гэта не толькі мастацтва і асвета. Культура — гэта магчымасць рэалізаваць таленты, здольнасці, у рэшце рэшт знайсці сваё месца ў жыцці, гарантаванае грамадствам чалавеку. Цана чалавека ў грамадстве (калі ўвогуле можна гаварыць пра цану чалавека) вызначаецца ягонай здольнасцю да развіцця ў інтарэсах грамадства.

Маю праграму можна выказаць у двух словах: як народны дэпутат, я буду спрыяць усяму, што будзе ўмацоўваць свабоду чалавека, эканамічную і духоўную. Калі зыходзіць з майго вопыту дэпутата



**Міхась САВІЦКІ, народны мастак СССР:**

— Пасля тых сюрпрызаў, якія прынесла, здавалася б, дакладна распрацаваная выбарчая кампанія, я ўпэўнены, што будуць нечаканасці і ў рабоце З'езда народных дэпутатаў і абранага там Вярхоўнага Савета СССР. Адна справа—тэорыя, іншая—практыка. Толькі практыка пакажа, ці адпавядаюць структурныя пераўтварэнні ў вярхоўным органе дзяржаўнай улады нашай краіны інтарэсам перабудовы, ці спрыяюць яны будаўніцтву прававой дзяржавы. А пакуль, думаю, мала хто з абраных



**Яўген КАВАЛЕЎСКІ, галоўны архітэктар г. Мінска, старшыня праўлення Саюза архітэктараў БССР:**

— Спадзяюся, што адметнай рысай маючага адбыцца З'езда народных дэпутатаў СССР будуць дзелавітасць, канкрэтнасць і мэтанакіраванасць. Час агульных размоў, хай і пра важныя для ўсіх нас рэчы,—прайшоў. На першы план зараз выходзяць кампетэнтнасць, уменне шырока мысліць, генерыраваць ідэі.

Калі б мне прадаставілася магчымасць выступіць з трыбуны З'езда, я б гаварыў пра тое, што мяне, як архітэктара, асабліва хвалюе і непакоіць. Архітэктура—сфера, якая закранае інтарэсы людзей, дзе б яны ні жылі, якімі б ні былі іх побыт і традыцыі. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што такія прынцыпы архітэктуры, як прыгажосць і зручнасць, у нас занядбаны. Вы паглядзіце — ад Брэста да Уладзівастока, ад Мурманска да Кушкі ўзводзяцца дамы, зробленыя амаль па адным стандарце, без уліку кліматычных і геаграфічных умоў, нацыянальных традыцый людзей, якія тут спакон веку жывуць. Наогул, я лічу, што наша архітэктура перастала ўлічваць шматвяковы вопыт народа, назапашаны ім, скажам, у тым жа будаўніцтве жылля. Вы ведаеце, што ніхто яшчэ не прыдумаў лепшага даху, чым саламяны—традыцыйны, напрыклад, для вёсак Беларусі і некаторых іншых рэгіёнаў. Ён выдатна акумулюе цяпло, пад ім у доме заўсёды суха, тут лёгка дыхаецца. Я, вядома, не кажу, што нам трэба пачаць выкарыстоўваць салому ў якасці будаўнічага матэрыялу. Але ж знайсці ёй адпаведную замену не такая ўжо немагчымая рэч.

Павязу на З'езд і клопат аб фарміраванні архітэктурнага асяроддзя, у якім павінен жыць чалавек у горадзе і вёсцы. Самае страшнае ў архітэктуры, я лічу,—стандарт, канвеер, ігнараванне адметных, уласцівых толькі гэтаму рэгіёну асаблівасцей. Зыходзячы з такіх меркаванняў, я супраць узвядзення ў Мінску чацвёртага буйнапанельнага домабудаўнічага камбіната. Лічу—хопіць нам стандартных бетонных каробкоў.

Як жа, спытаеце, забяспечыць людзей жыллём? Гэта можна зрабіць за кошт рэзкага пашырэння індывідуальнага будаўніцтва.

Як народны дэпутат, буду прымаць усе захады да таго, каб ажыццявіць у нас праграму індывідуальнага будаўніцтва, пад якое ўжо выдзелена чатыры зоны—Заслаўе, Калодзішчы, Міханавічы, Фаніпаль, што стануць у будучым своеасаблівымі гарадамі-спадарожнікамі Мінска са сваім адметным архітэктурным абліччам.



**Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, народны мастак Беларусі, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР:**

— Сёння, калі мы ставім задачу прыйсці да рэальнага народаўладдзя, многае залежыць ад таго, ці зможам мы ўзняць узровень культуры нашага грамадства. Што трэба зрабіць для гэтага?

Я прапанаваў бы, у прыватнасці, каб кіраўнікі высокага рангу абавязкова праходзілі атэстацыю ў спецыяльнай камісіі нашага новага парламента. Корпус партыйных і савецкіх кіраўнікоў павінен фарміравацца выключна з людзей высокай культуры, людзей кампетэнтных, прафесіяналаў вышэйшага класа.

Мяне, як дэпутата, як мастака, вельмі хвалююць праблемы эстэтычнага выхавання нашых дзяцей, моладзі. Ад слоў, ад заклікаў мы пачынаем нарэшце пераходзіць да справы.

У Беларусі створаны Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання, кіраваць якім даверана мне. Ідэя такога цэнтра была прапанавана ў свой час Саюзам мастакоў БССР, і вось цяпер, з дапамогай урада рэс-



**Марыя КАРПЕНКА, галоўны рэдактар часопіса «Работніца і сялянка»:**

— Калі мы выступаем за стварэнне прававой дзяржавы, то і міжнародная палітыка Савецкага Саюза павінна будавацца на сістэме строгіх законаў. Важнейшыя рашэнні ваеннай палітыкі павінны прымацца адкрыта, а не так, як гэта было, скажам, у выпадку з Афганістанам. Народ мае права ведаць і аб выдатках на патрэбы Міністэрства абароны: колькі і на што ідзе грошай з нашых з вамі кішэняў.

Дэпутаты, я ўпэўнена, будуць выступаць на З'ездзе за ўмацаванне і гарманічнае развіццё міжнацыянальных адносін у нашай краіне. Такое развіццё, па-мойму, магчыма толькі пры сапраўднай і глыбокай павазе да нацыянальнай культуры, мовы, гістарычных традыцый кожнага народа.

Апошнім часам многа пішуць пра адказнасць журналістаў перад грамадствам, крытыкуюць друк за пагоню за сенсацыяй, за павярхоўнасць у асвятленні надзённых праблем жыцця. Але ж і ведамствы, я лічу, павінны адказваць перад грамадствам за свае дзеянні, сумленна рэагаваць на крытыку ў друку, а не адхрышчвацца ад яе ўсімі праўдамі і няпраўдамі. Закон аб друку, які, спадзяюся, будзе прыняты вярхоўным органам улады, дапаможа журналістам у іх нялёгкай справе.

І яшчэ. Як член Камітэта савецкіх жанчын, не магу не выказаць сваёй трывогі з нагоды таго, што сярод народных дэпутатаў СССР усяго 17 працэнтаў жанчын. Амаль не сустрэнеце вы іх і на самых высокіх кіруючых пасадах. А між тым, толькі ў нашай рэспубліцы жанчыны складаюць большую палову ўсіх працоўных.

Я думаю, што ўсе жанчыны-дэпутаты аднадушна выступяць за павелічэнне адпачынку па доглядзе дзіцяці да 3-х гадоў, за вызваленне жанчын ад цяжкай фізічнай працы, ад начных змен.

Канечне, жыццё можа ўнесці свае карэктывы. У часе работы З'езда народных дэпутатаў могуць узнікнуць іншыя пытанні. Галоўнае, каб наш з'езд не стаў машынай для галасавання. Хацелася б, каб кожны дэпутат галасаваў толькі так, як падкажа яго сумленне.



**Алег ЧАРНЫШОЎ, загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута:**

— «Прыгажосць уратуе свет», — гаварыў Дастаеўскі. Але ж і сама прыгажосць у сучасным свеце патрабуе абароны ад разбурэння.

У нашым грамадстве, на жаль, усё больш распаўсюджваецца тое, што я называю сіндромам культурнага дэфіцыту. Змагацца з гэтай вельмі небяспечнай сацыяльнай хваробай закліканы і мы, дызайнеры.

Без дызайну ў сучаснай вытворчасці не абысціся. Падлічана, што ў прамыслова развітых краінах Захаду кожны долар, выдаткаваны на дызайн, дае 1500 долараў прыбытку. У Вялікабрытаніі, скажам, пытанні дызайну з'яўляюцца часткай дзяржаўнай палітыкі.

дэпутатаў я, вядома, не ведаю. Усіх! Але ёсць сярод дэлегатаў з'езда нямала людзей, якія вядомы ўсёй краіне сваёй грамадзянскай пазіцыяй, барацьбой за аднаўленне грамадства, перабудову, дэмакратызацыю і галоснасць. У будучым савецкім парламенце галасы іх, думаю, будуць гучаць упэўнена і важка.

З'езд народных дэпутатаў СССР, Вярхоўны Савет СССР сярод іншых важных пытанняў, безумоўна, будуць вырашаць і пытанні развіцця нашай культуры. Будзе што тут сказаць і мне. Я за тое, каб надаць большую самастойнасць усім творчым саюзам рэспублікі, у прыватнасці, саюзам кампазітараў, адзін з якіх — беларускі — я ўзначальваю. Так, праблем вельмі многа. Не магу, напрыклад, змірыцца з дзеючым цяпер прынцыпам рэшткавага фінансавання ўсяго, што звязана з развіццём музычнай культуры, — стварэннем новых калектываў, будаўніцтвам канцэртных залаў, музычных тэатраў і т. п.

---

Вярхоўнага Савета БССР трох скліканняў, дык гэта будзе нялёгка. Працуючы ў камісіі па асвеце і культуры, я, а таксама іншыя дэпутаты, практычна не мелі ўяўлення, што робіцца ў іншых камісіях. А ці можна вырашаць пытанні культуры ў адрыве ад эканомікі, экалогіі, знешняй палітыкі?

Наша грамадства нарэшце прыйшло да ўсведамлення агульнавядомай ісціны, што ўмовай свабоднага развіцця ўсіх з'яўляецца свабоднае развіццё кожнага, што адміністрацыйны прымус ва ўсіх галінах нараджае дылетантызм, некампетэнтнасць. У гэтым, дарэчы, галоўная прычына чарнобыльскай трагедыі. Я цалкам падтрымліваю тых, хто 26 красавіка выйшаў на мінскую плошчу Леніна, каб адзначыць маўклівым мітынгам жалобную гадавіну. Лічу, што дзень 26 красавіка павінен быць заканадаўча зацверджаны на Беларусі як Дзень нацыянальнай жалобы. Як дэпутат, я буду змагацца і за гэта, бо сёння ёсць сілы, якім бы хацелася ўсё спісаць на «застой» і разам з тым працягваць у палітыцы, эканоміцы і культуры «застойную» лінію.

---

публікі, паспяхова ажыццёўлена.

Рэалізуецца праект рэспубліканскага цэнтра народных майстроў, творчасць якіх наш саюз дзейсна падтрымлівае. Вельмі ж важна вярнуць народу пачуццё родных каранёў, адрадзіць нацыянальныя традыцыі.

На парадку дня стаіць і стварэнне Беларускай акадэміі мастацтва.

Вельмі хацелася б, каб на ўсіх узроўнях партыйнага і савецкага кіраўніцтва былі прадстаўлены як раўнапраўныя партнёры творчыя работнікі. Гэта, я ўпэўнены, дапамагло б вырашыць многія нашы сацыяльныя і культурныя праблемы.

Упэўнены я і ў тым, што народным дэпутатам СССР — дзеячам культуры і навукі ўсіх рэспублік — трэба аб'яднацца на агульнай платформе.

---

Я лічу, даўно наспела патрэба ў стварэнні ўсесаюзнага спецыялізаванага праектнага інстытута дызайну. Такі інстытут можна было б стварыць у нашай рэспубліцы. Аднак сёння мы сутыкаемся з неразуменнем важнасці гэтых задач. Даводзіцца ўвесь час пераадольваць шматлікія арганізацыйныя і фінансавыя цяжкасці.

Нядаўна створаны Саюз дызайнераў БССР, на вялікі жаль, не мае сёння ні патрэбнай колькасці памяшканняў, ні грошай, ні заказаў.

Зразумела, кола праблем, вынесеных на разгляд народных дэпутатаў СССР, будзе вельмі шырокае. Праблемы дызайну і ўвогуле мастацкай культуры — адны з многіх.

---

*Вучымся дэмакратыі*

# ЛОЗУНГІ І ЖЫЦЦЁ

Многім мінчанам, відаць, запомніўся той лютаўскі дзень на пачатку года, калі на стадыёне «Дынама» ўпершыню адбыўся мітынг у падтрымку перабудовы. Быў на тым мітынгу і я. А напярэдадні гэтай незвычайнай падзеі адбылася ў мяне цікавая размова з адной маёй знаёмай.

— Вольга, пойдзеш на мітынг?

— Не, не пайду!

— Чаму? Ты ж за перабудову!

— Яно так. Толькі я даўно не веру ў перамены ад змены кіраўніцтва. Уявім сабе самае неверагоднае: да ўлады прыйдуць «нефармалы». І што? Яны хутка пачнуць паводзіць сябе гэтак жа, як і ранейшыя кіраўнікі. А да маіх 150 рублёў зарплаты напярэдадні пенсіі не прыбавіцца ні капейкі. Так што мітынг у маім жыцці нічога не зменіць.

Спроба прывесці ёй прыклады пацяплення грамадскага клімату пасля XX і XXII з'ездаў партыі Вольгу яшчэ больш раззлавала.

— А чым гэта скончылася? Разлажэннем грамадства. Рашыдавы, кунаевы, шчолакавы, чурбанавы множыліся на ўсіх узроўнях і тварылі свае заганныя справы. Сам мудры маршал Брэжнеў падаваў ім прыклады карыслівага служэння самому сабе. Навошта яму было мець, напрыклад, 13 (а сёй-той кажа, што 17) аўтамашын розных марак? Навошта яму было браць падатак з усёй краіны ў выглядзе незлічоных каштоўных падарункаў? А прэса? Яна ж пахалуйску апявала жахлівыя беспарадкі і хлусіла народу!

Пачутае ахаладзіла маю акрыленасць. Шмат у чым праўду кажа Вольга. Так, пачынаючы са Сталіна, змена галоўных кіраўнікоў не змяняла іх імкнення распараджацца народам як быццам на карысць народу і ад яго імя па нібыта раз і назаўсёды здабытым у 1917 годзе праве. У гэтым галоўныя нашы беды, якія аддзялілі народ ад права на кіраванне краінай па законах розуму, памножанага на гуманізм і клопат аб будучым пакаленні з улікам інтарэсаў усяго чалавецтва.

Ад усяго гэтага мой настрой упаў. Але не давала спакою думка: «А што ж будзе, калі ўсе пагодзяцца з пазіцыяй інжынера Вольгі?» Матэрыяльнае становішча народа не будзе каму паляпшаць. Духоўны змест чалавека, г. зн. падмурак усёй яго дзейнасці і жыцця, будзе разбурацца ў выніку клопату кожнага толькі пра сваё ціхае быццё. І тое, што мы і ўвесь свет разам з намі называе перабудовай, загіне. А перабудова ж — гэта не прасвятленне ці чарговая выдумка аднаго чалавека, не падарунак народу ад партыі, як часта нас запэўніваюць. Гэта настойлівае патрабаванне самога жыцця. Каб паказаць яе неабходнасць і наблізіць рэалізацыю, многія лепшыя людзі краіны аддалі жыццё, многія прайшлі праз турмы, многія былі вымушаны пакінуць СССР. А такія, як акадэмік Сахараў, чыйму генію краіна абавязана вельмі многім, былі падвергнуты здзеклівому цкаванню з падключэннем усіх сродкаў масавай дэзінфармацыі і дурманячай хлусні. Аднак тыя, хто тварыў самавольства, не здалі пазіцый і часам нават не раскайваюцца. Значыць, перабудове патрэбна арганізаваная падтрымка. Адной партыі з задачамі абнаўлення ўсіх аспектаў нашага жыцця не справіцца.

Вось такія довады прывялі мяне на мітынг.

Праўда, выступіць мне не давялося. А сказаў бы я вось пра што.

Перашкаджаць шырокаму руху за перабудову неразумна, спыніць яго — немагчыма. Значыць, *важна, каб яго накіраванасць была карыснай*. Дасягненню гэтай мэты будуць садзейнічаць не ўзаемныя абвінавачанні, а цвярозы роздум з канкрэтнымі ўзважанымі прапановамі. Дзеля гэтага трэба глыбока ўскрыць і аб'ектыўна асэнсаваць недахопы мінулага, каб закрыць назаўсёды шляхі да іх адраджэння.

Думаецца, што многія колішнія лозунгі маюць патрэбу ў пераасэнсаванні. Напрыклад, неабходна ўдакладніць формулу «быццё вызначае свядомасць». Яна шырока выкарыстоўвалася для апраўдання любых антымаральных учынкаў. На яго аснове ствараліся і іншыя дагматычныя лозунгі, тыпу: «Калі вораг не здаецца, яго знішчаюць», «Мы не можам чакаць міласцей ад прыроды, наша задача — узяць іх ад яе» і г. д. Можа, правільней будзе сказаць так: «Свядомасць, заснаваная на ўліку ўсіх рэальнасцей быцця і мэтавых установак жыцця, вызначае ўчынкі і дзеянні людзей»?

Аўтарытэт партыі безумоўна ўзрасце, калі канкрэтызаваць змест лозунга «Планы партыі — планы народа». Цяпер ён часта ўспрымаецца як абавязак выканання народам рашэнняў партыі. Аднак партыя створана дзеля служэння інтарэсам народа. Значыць, і ацэнку яе дзейнасці павінен даваць народ. Сцвярджэнне народнай дэмакратыі немагчыма без істотных зменаў парадку абмеркавання праектаў законаў. Цяпер гэтае абмеркаванне толькі фармальна можна назваць усенародным. Прабіцца з сур'ёзнымі прапановамі на старонкі друку амаль немагчыма. Так, напрыклад, я ў двух артыкулах пісаў пра сур'ёзныя дапаўненні да паправак у Канстытуцыі СССР пры іх абмеркаванні ў снежні 1988 г. Артыкулы былі прыняты да друку, але не апублікаваны. На матэрыялы, пасланыя ў Вярхоўныя Саветы СССР і БССР, ніхто і ніяк не зрэагаваў. Далей. Усе рашэнні па паступіўшых прапановах прымаюць цэнтральныя камісіі, якія стварылі гэтыя праекты. Практыка такіх абмеркаванняў паказвае, што ўсе праекты амаль без зменаў ператвараюцца ў законы. Значыць, трэба павышаць дзейнасць такіх абмеркаванняў, адбіраць цэнтральныя пытанні для ўсенародных рэферэндумаў. Рацыянальную форму іх правядзення распрацаваць нескладана, прадугледзеўшы як прамое волевыяўленне народа па важнейшых асноватворных законапалажэннях, так і народныя прадстаўнічыя з'езды па *рэгіёнах*.

Цяпер мы, нарэшце, прызналі афіцыйна: агульначалавечыя маральныя каштоўнасці павінны пераважаць над вузкакласавымі. Найпершымі пасля захавання міру на Зямлі з'яўляюцца экалагічныя праблемы. Заклікамі справу не выправіш. Магчымасці замяніць АЭС цеплавымі станцыямі катастрафічна змяншаюцца ў выніку вычарпання прыродных рэсурсаў. Няма куды высяляць экалагічна шкодныя прадпрыемствы з гарадоў. Значыць, паўстае сур'ёзнейшая задача выхаваць у кожным чалавеку ўнутраную патрэбу абараняць прыроду ўсюды, ва ўсім і заўсёды.

Далей. Развіццё галоснасці, захаванне правоў чалавека і яго свабоды, ураўніванне ўсіх у *гэтых правах мае і негатыўныя* бакі. Ідэі Свабоды, Роўнасці і Брацтва, аб'яўленыя Вялікай французскай рэвалюцыяй, атрымліваюць часам прымітыўнае тлумачэнне. Свабода прыроўніваецца да ўсёдазволенасці. Роўнасць — да гвалтоўнага прыніжэння вышэйшага да ніжэйшага, ураўнілаўкі і размеркаванню даброт не па працы. Брацтва — да панібрацтва і ўсёдаравання. Дзейнасць гэтых вялікіх ідэй павялічыцца, калі ўдакладніць: Свабода — у адказе перад бліжнім і грамадствам; Роўнасць у правах — без ураўнілаўкі і закрыцця шляхоў да прагрэсу; Брацтва — у імя духоўнасці.

Вялікую шкоду і партыі і народу прынеслі людзі, якія атрымалі вучоныя ступені на апяванні ўсяго, што звязана са сталінізмам, брэжнеўскім разлажэннем, з нізкапаклонствам, падхалімажам, скажэннем гістарычнай ісціны, падманам народа і алілуйшчынай. Многія з тых вучоных кіруюць навуковымі падраздзяленнямі, кафедрамі, калектывамі. Напрошваецца думка аб атэстацыі адпаведнасці іх вучоных ступеняў навуковай ісціне.

Усе гэтыя задачы даволі складаныя. Максімальнае прыцягненне народа да іх вырашэння патрабуе адпаведнай арганізацыйнай формы. Відаць, гэта можна забяспечыць ва ўмовах аднапартыйнасці нашай сістэмы стварэннем руху ў падтрымку перабудовы. Асабіста мне ўяўляецца гэта справай досыць няпростай. Бо ад арганізацыйнай структуры руху, яго праграмных палажэнняў, метадаў палітычнага спаборніцтва залежыць вельмі многае. Можна будаваць усё гэта на дзелавой аснове. А можна распальваць масы дэкларацыямі, якія цяжка ажыццявіць. На маю думку, гэтыя пытанні заслугоўваюць самага сур'ёзнага абмеркавання на старонках рэспубліканскага друку. Месца для яго можна адшукаць, скараціўшы колькасць павучанняў, каму і як трэба працаваць.

**А. САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук,**
**прафесар БТІ**
**імя С. М. Кірава.**
г. Мінск.

---

# АСЭНСОЎВАЮЧЫ ДЫЯЛЕКТЫКУ ПЕРАБУДОВЫ

**Усесаюзная навукова-практычная канферэнцыя «Дыялектыка. Перабудова. Чалавек» адкрылася 16 мая ў Мінску. Яна арганізавана Дзяржаўным камітэтам СССР па народнай адукацыі, Акадэміяй грамадскіх навук пры ЦК КПСС, Дзяржаўным камітэтам СССР па навуцы і тэхніцы, Інстытутам філасофіі АН СССР, Філасофскім таварыствам СССР. У ліку арганізатараў таксама міністэрствы і ведамствы рэспублікі, навучальныя і навукова-даследчыя ўстановы, вытворчыя аб'яднанні.**

**Канферэнцыю адкрыў сакратар ЦК КП Беларусі В. А. Пячэннікаў.**

**Як і ўсюды ў краіне, адзначыў ён, працоўныя Беларусі не ўяўляюць сваю будучыню без *аздараўлення грамадства* на аснове сацыялістычных каштоўнасцей. Прагаласаваўшы на нядаўніх выбарах за перабудову, за лінію партыі на карэннае абнаўленне жыцця, беларускі народ прадэманстраваў рашучасць няўхільна ісці па намечанаму курсу, якасна вырашаць складаныя задачы нашага адказнага і дынамічнага часу.**

**Расказаўшы аб тым, што рэспубліцы ўжо ўдалося дасягнуць у развіцці сацыяльна-эканамічнай сферы, В. А. Пячэннікаў *падрабязна спыніўся* на існуючых праблемах і шляхах іх вырашэння. Неабходнасць ломкі ўстарэлых стэрэатыпаў каманднa-адміністрацыйнага стылю кіравання, маючы адбыцца пераход Беларусі на прынцыпы рэгіянальнага самакіравання і самафінансавання, адраджэння сапраўднага поўнаўладдзя Саветаў, усталяванне гаспадарчай самастойнасці абласцей, гарадоў і раёнаў у забеспячэнні насельніцтва прадуктамі харчавання, таварамі, паслугамі, жыллём і іншымі сацыяльнымі дабротамі — гэта толькі частка надзённых задач дня.**

**Партыйныя і дзяржаўныя органы, грамадскасць рэспублікі ўзмацнілі сёння і ўвагу да аздараўлення экалагічнай абстаноўкі, больш рацыянальнага выкарыстання прыродных багаццяў. Завяршаецца стварэнне новай рэспубліканскай дзяржаўнай *праграмы па ліквідацыі вынікаў* чарнобыльскай аварыі. У пацярпеўшыя раёны будуць дадаткова накіраваны вялікія матэрыяльна-тэхнічныя і фінансавыя рэсурсы.**

**Прыняты і рэалізуецца рад буйных мер па высвятленню «белых плям» у гісторыі беларускага народа, забеспячэнню росту нацыянальнай самасвядомасці, культуры, расшырэнню сферы прымянення роднай мовы.**

**Адна з асноў паспяховага руху наперад нашай дзяржавы па шляху прагрэсу — сацыялістычны інтэрнацыяналізм. У міжнацыянальных адносінах у рэспубліцы атмасфера дружбы, брацтва, узаемнай павагі з'яўляецца абсалютна дамінуючай. Тым не менш праблемы, накопленыя і ў гэтай складанай і тонкай сферы, патрабуюць больш эфектыўных рашэнняў.**

**У гэтай сувязі было падкрэслена, што рэалізацыя задач абнаўлення савецкага грамадства, надання сацыялізму гуманістычнага аблічча немагчыма без фундаментальнага развіцця тэорыі, без надзейнага навуковага забеспячэння. Круг важнейшых праблем, якія павінны стаць прадметам глыбокага асэнсавання з боку грамадазнаўцаў, будзе абмяркоўвацца і на цяперашняй канферэнцыі.**

**Выдзеліўшы асноўныя напрамкі, па якіх ад яе ўдзельнікаў чакаецца глыбокі сістэмны аналіз, В. А. Пячэннікаў у заключэнне падкрэсліў, што ўсе мы фактычна здаём экзамен — гістарычны экзамен перабудовы. І здаць яго дастойна нельга без аўтарытэтнага слова і дапамогі навукі, без сур'ёзных, усебакова абгрунтаваных тэарэтычных абагульненняў і практычных рэкамендацый вучоных-грамадазнаўцаў.**

**На пленарным пасяджэнні з дакладамі выступілі рэктар Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС Р. Р. Яноўскі, дырэктар Інстытута філасофіі АН СССР В. С. Сцёпін, начальнік Галоўнага ўпраўлення выкладання грамадскіх навук Дзяржадукацыі СССР У. І. Купцоў, акадэмік АН БССР У. А. Лабуноў.**

**Абмеркаванне дакладаў, дыскусіі праходзяць на пасяджэннях дзесяці секцый.**

**У іх удзельнічаюць вучоныя з саюзных рэспублік, Балгарыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Польшчы і Чэхаславакіі.**

**У рабоце канферэнцыі прымае ўдзел інструктар ЦК КПСС Б. А. *Шамякін*.**

**БЕЛТА.**

## З пошты «ЛіМа»

# •Ці пераводзіць нам гадзіннікі?
# •Недарэчны рэферэндум
# •Што робіцца ў суседзяў?

□

Цалкам згодны з думкамі, што выкладзены ў надзённым артыкуле Леаніда Лыча «Беларускай мове — статус дзяржаўнай» («ЛіМ», № 17). Хацелася б толькі дадаць некалькі сваіх прапаноў.

Трэба грунтоўна разабрацца ў механізме знішчэння нацыянальных моў і культур, распачатых у часы сталінізму, назваўшы пры гэтым канкрэтныя імёны і публікацыі, якія датычаць згортвання ўжытку беларускай мовы. У сувязі з гэтым хачу прывесці як прыклад радкі з ліста Н. К. Крупскай да І. В. Сталіна ад 7 сакавіка 1938 г. (надрукаваны ў «Известиях ЦК КПСС», 1989, № 3, с. 179): «...Мы вводим обязательное обучение русскому языку во всем СССР. Это хорошо. Это поможет углублению дружбы народов. Но меня очень беспокоит, как мы это обучение будем проводить. Мне сдается иногда, что начинает показывать немного рожки великодержавный шовинизм. Например, я считаю вредным введение преподавания письма и чтения на первом году обучения не только на материнском, но и на русском языке, считаю вредным введение единого букваря для всех народностей, букваря переведенного с русского».

Відаць, неабходна перагледзець і практыку вывучэння замежных моў у БССР. Прапаную ва ўсіх школах абавязкова вывучаць толькі англійскую мову, а астатнія (нямецкую, французскую і іспанскую) вывучаць у ВНУ, дадаўшы на гуманітарных факультэтах латынь і адну са славянскіх моў.

У беларускіх школах рускую мову трэба вывучаць з другога або трэцяга класа, так, як прапаноўвала Н. К. Крупская, выдатны савецкі педагог. Бо родная мова ў чалавека, як і маці, — адна, а веданне іншых моў магчыма толькі пры дасканалым валоданні роднай.

**А. ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

□

Як і многія жыхары нашай рэспублікі, я катэгарычна супраць пераводу стрэлкі гадзінніка на гадзіну ўперад на летні час.

Заўсёды з цяжкасцю пераношу гэты штучны зрух часу і кожны год не магу дачакацца звароту да нармальнага часу ўвосень. Але найбольшую шкоду ад гэтага назіраю на дзецях свайго аддзялення (я загадваю неўралагічным аддзяленнем Мінскай абласной дзіцячай бальніцы). З пераводам стрэлкі гадзінніка немагчыма перавесці стрэлкі «біялагічных гадзіннікаў» дзяцей. Іх трэба раней падымаць на працэдуры, прымушаць есці на гадзіну раней і класці спаць на гадзіну раней, калі яшчэ свеціць сонца, заснуць жа яны ўсё роўна не могуць... і гэтак далей. Усё гэта зусім не спрыяе лячэнню нервовай сістэмы дзяцей.

Недзе чытала, што час у Беларусі і так не супадае з маскоўскім, а тут яго яшчэ штучна перасоўваюць. Рабіць гэтага ў нашай рэспубліцы не трэба.

**В. ПЯТРОВА,**
**урач з 30-гадовым стажам.**
г. Мінск.

□

Хачу выказаць сваю думку наконт адной, мякка кажучы, дзіўнай публікацыі. Маю на ўвазе «Рэферэндум чытача», надрукаваны нядаўна ў «Советской Белоруссии» разам з артыкулам гісторыка П. Петрыкава «Мова наша надзённая».

Які ж рэферэндум задумала правесці паважаная газета? Па адносінах да беларускай мовы.

На маю думку, праводзіць рэферэндум сярод чытачоў сёння, пасля таго, як наша мова стараннямі дзеячаў тыпу Суслава пад выглядам выхавання ў духу інтэрнацыяналізму зведзена на нішто, па сутнасці, выключана з дзяржаўнага і грамадскага ўжытку, не толькі не мэтазгодна, але і абсурдна. Няцяжка прадбачыць, які будзе «сумарны» вынік. Праводзіць такія апытанні лічу кашчунствам у дачыненні да памяці продкаў, якія праз вякі пранеслі як скарб нашу мову, і здрадніцтвам у дачыненні да будучых пакаленняў.

Цікава было б ведаць, як бы паставілася рэдакцыя газеты да таго, каб правесці рэферэндум на тэму «Ці трэба памятаць сваіх бацькоў?» або «Ці трэба браць пад ахову дзяржавы помнікі гісторыі?». Абсурд, ці не праўда?

Між тым прызнанне беларускай мовы дзяржаўнай якраз і азначае ўзяць яе пад ахову дзяржавы.

І яшчэ. Па-свойму прадвырашае і сэнс, і вынікі «рэферэндума» названы мной артыкул доктара гістарычных навук П. Петрыкава — яўна нігілістычны, псеўданавуковы, разлічаны на невуцтва, бескультур'е пэўнай часткі насельніцтва, абыякавай да лёсу мовы і культуры.

**І. КЛАЧКОЎ,**
**тэхнолаг МТЗ, член КПСС,**
**31 год.**
г. Мінск.

□

Нядаўна мне давялося прысутнічаць на першай абласной краязнаўчай канферэнцыі. Ехала я туды з надзеяй, а вярталася з болем у сэрцы. Склалася такое ўражанне, што і не пачыналася ў краіне перабудова, што трапіла я недзе ў сярэдзіну 70-ых гадоў. Той жа шматлюдны пачэсны прэзідыум, які чамусьці завецца «рабочым». Тыя ж загадзя складзеныя і ўзгодненыя спісы. Такі ж нецікавы, на нізкім навуковым узроўні даклад. Мо доктар гістарычных навук Э. М. Загарульскі і добры археолаг, але ці ж такімі сентэнцыямі вучыць краязнаўцаў: «Краеведение — такое же увлечение человека, как собирание марок или открыток» або: «Главное, чего не хватает для успешной краеведческой работы, — организации, руководства». Маўляў, вось створым краязнаўчае таварыства, прызначым адказных, і ўсё пойдзе як па масле. Не, не пойдзе. Не пойдзе да таго часу, пакуль да краязнаўства, да вывучэння роднага краю будуць адносіцца, як да нейкага «хобі», як да нечага зусім неабавязковага, другараднага. Пакуль народныя грошы будуць траціць не на развіццё культуры, а на будаўніцтва нікому не патрэбных палацаў (у адным з такіх і праходзіла канферэнцыя). Называецца ён «Дом политического просвещения». Хто і каго там «политически просвещает»? Раней, калі чалавек прыходзіў у Храм Божы, бачыў яго велічнасць і раскошу, ён адчуваў сваю нікчэмнасць перад Богам. А што адчуваюць людзі, якія падымаюцца па шырокіх мармуровых лесвіцах, якія бачаць гэтую пампезнасць, гэты панскі размах? Аб чым думаюць, напрыклад, працаўнікі вёскі, у якой няма не тое што Палаца культуры, а звычайнага клуба? А супрацоўнікі Любанскага музея народнай славы (дзяржаўнага музея, я ўжо не кажу пра грамадскія!), якія працуюць у невялікім драўляным дамку, пабудаваным больш за 20 гадоў назад? Калі хто мяркуе, што разбазарванне народных грошай на ўяўныя патрэбы — учарашні дзень, дык, на жаль, не. На канферэнцыі выступала дырэктар Барысаўскага краязнаўчага музея Ж. В. Гілевіч. Яны ў горадзе вырашылі, каб адзначыць такую важную падзею, як разгром французаў у 1812 г., пабудаваць панараму «Бярэзінская пераправа». І просяць у дзяржавы на сваю задумку прыкладна 4 мільёны рублёў. Маўляў, калі кажаце, што павярнуліся да культуры тварам, дык давайце дзейнічаць, развіваць культуру. І наколькі ж падымецца культурны ўзровень насельніцтва пасля стварэння гэтай панарамы? На суму затрачаных 4 млн. народных рублёў?

Што датычыць выступленняў, дык яны былі розныя. Але ўразіла, што пасля перапынку засталося каля паловы ўдзельнікаў. Нецікава? А можа, на канферэнцыю трапілі выпадковыя людзі? Меркаваць можна па-рознаму. Я ж хачу адзначыць, што ў двух загадзя складзеных спісах, якія прапанавалі арганізатары канферэнцыі (членаў савета абласнога краязнаўчага таварыства і дэлегатаў на рэспубліканскі краязнаўчы з'езд), некалькі настаўнікаў, некалькі дырэктараў музеяў, а астатнія — «адказныя асобы»: розныя загадчыкі, намеснікі, старшыні. Ці будзе толк з такога краязнаўчага руху? Баюся, што не.

**Л. БОЙКА,**
**навуковы супрацоўнік**
**Салігорскага краязнаўчага музея.**

□

На маю думку, «ЛіМ» пры ўсім добрым, што ён робіць, слаба інфармуе пра тое, што адбываецца ў нашых суседзяў у галіне нацыянальнага адраджэння. Мы амаль пазбаўлены такой інфармацыі. А было б вельмі карысна ведаць, што адбываецца, напрыклад, на Украіне, якая доўгі час дзяліла і сёння дзеліць свой супольны гістарычны лёс з Беларуссю.

Вельмі шкада, што беларусы не ведаюць падрабязнасцей пра стварэнне Таварыства ўкраінскай мовы імя Т. Р. Шаўчэнкі. Інфармацыя аб гэтым была ў «Літаратурнай Украіне» за 16.II.89 г. Устаноўчая канферэнцыя адбылася 11—12 лютага 1989 года. Уступнае слова на ёй зрабіў Алесь Ганчар. Вось што ён гаварыў, у прыватнасці: «Нястомныя злівальнікі нацый, псеўдаінтэрнацыяналісты, хіба яны не рыхтавалі нам моўны Чарнобыль, запэўніваючы, што працэс асіміляцыі, маўляў, вынікае стыхійна, што аняменне нацый, самавынішчэнне народа трэба разглядаць як вышэйшы этап прагрэсу. Цяпер ужо ясна, што гэта было цяжкае злачынства супраць нацыянальных культур, гэта была запланаваная акцыя, суслаўскія лёкаі з вучонымі ступенямі ўжо прыкідвалі тэрміны, калі і якая мова загіне назаўжды. Рыхтавалася нацыянальным мовам доля штучна зруйнаваных «неперспектыўных» вёсак. Напэўна, дзеля гэтага так узмоцнена заахвочвалася міграцыя велізарных мас люду з рэгёна ў рэгіён, каб хутчэй перамяшаць, ператапіць усіх нас у адзіным катле, каб, руйнуючы генетычную памяць народаў, пазбаўляць іх каранёў, каб штораз больш вырастала людзей ніякіх, бяспамятных, апатычных, — акрамя «мармытухі», абыякавых да ўсяго,— каб замест думаючых свядомых грамадзян мець перад сабою натоўп спрымітызаваных, задурманеных догмамі, сонных і напаўсонных душ, такіх зручных для адміністратыўнабюракратычнага апарату. Нярэдка нам колюць вочы: гэта такая ваша нацыя, не ўмее шанаваць сваё, сама адмаўляецца працягваць свой генетычны род. Але прыгадайма рэальнасць: апрача начэплівання ярлыкоў, ці было калі-небудзь сказана афіцыйнае слова ў абарону гонару і прэстыжу мовы ўкраінскага народа?»

Літаральна тое ж самае можна сказаць і адносна беларускае мовы...

Далей. Чаму б нам, беларусам, не ведаць, што 27 студзеня 1989 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета УССР унёс на разгляд парламента рэспублікі прапанову аб наданні ўкраінскай мове статуса дзяржаўнай? Можа б, тады і ў нас хутчэй парупіліся з гэтай справай?

Канстатацыя фактаў сённяшняга становішча нашай мовы, зафіксаванне «комплексу пасіўнасці» беларускай культуры, толькі плач над нашым гаротным нацыянальным лёсам без прапановы канкрэтнага выйсця з гэтых глухіх куткоў—гэтага амаль праз чатыры гады пасля красавіцкага Пленума ЦК КПСС, які абвясціў курс на перабудову, ужо недастаткова. Нешта мы надта доўга выціскаем з сябе раба!

**А. ЛЯГУЦКІ,**
**урач.**
г. Асіповічы.

□

Прачытаўшы аб'яву, я прыйшоў аднойчы ў Дом культуры ўпраўлення бытавога абслугоўвання Мінскага гарвыканкома, што на Рэвалюцыйнай, 9, дзе мелася адбыцца пасяджэнне кінаклуба «Рэзананс». Наіўны, я верыў, што кінаклубы існуюць для аматараў сапраўднага кінамастацтва. Таму і чакаў у той вечар сустрэчы з шэдэўрам Феліні.

Але замест аб'яўленага Феліні быў прапанаваны Шварцэнегер у фільме «Чырвоная спякота». Так я застаўся ў той вечар без кіно, а таму быў у мяне час, каб паразважаць над тым, што адбылося.

Справа ў тым, што «Чырвоная спякота» намі юрыдычна яшчэ не закуплена, а выключныя правы на падарункавы экземпляр належаць УВТ «Відэафільм». Ці ж тая фірма мяне сватала раскашэліцца (2 рублі 50 капеек за 1 гадзіну 45 хвілін любога відэафільма)?

Вышэйадзначаны ДК — установа прафсаюзнай культасветсеткі, г. зн. дзяржаўным кантрольным інстанцыям непадуладная. А прафсаюзныя відэаўстаноўкі, як мне паведамілі ў гарадскім упраўленні культуры, ніякіх законных правоў на пракат Шварцэнегера не маюць. І тым не менш, працягваюць «круціць кіно»...

Далей. Зразумела, калі ў відэаклубе знаёмяць сапраўдных кінааматараў (іншыя за 2.50 наўрад ці прыйшлі б сюды) з сусветнай класікай. Але «Чырвоная спякота», даруйце,— зусім з іншай оперы. Да яе не варта сілком паварочваць тых, хто пайшоў па густах далей і вышэй. Не варта, аднак, падобныя кіназ'явы і заахвочваць, інакш культура нашага «сярэдняга» гледача будзе па-ранейшаму асуджана таптацца ў зоне танных кінападзелак і псеўдастрасцей.

Дык ці не час больш уважліва прыгледзецца да культуры ва ўсіх яе праявах, уключаючы відэасеансы ў дамах культуры?

І апошняе — пра культуру дзяржаўную і прафсаюзную. Дальбог, абракадабра нейкая. Можна да скону ваяваць за паварот да чалавека, яго патрэб і запатрабаванняў і раптам пераканацца ў бяссіллі. Гэтак мы распылім усе сілы сумленных перабудоўшчыкаў (Што яны ў сістэме відэапракату і культасветы ў цэлым ёсць — не сумняваюся ні на секунду). Але ці не час аб'яднацца і фармальна, і фактычна, выцясняючы ахвочых да «Спякоты» і навару жучкоў ад культуры?..

**С. ПЯТРОЎ,**
**член Саюза журналістаў СССР.**
г. Мінск.

**«А ўсё віна ў тым, што мой Мікітка вучыўся, але, мабыць,— не давучыўся, і выйшла з яго ні богу сьвечка, ні чорту качарга»,— гэта кажа не Гануля, гэта Маці, гэта Беларусь аплаквае свайго сына, што з «тутэйшых» выбіўся на рэнегата. Стаў чалавекам «меджду протчым» — паміж невуцтвам і сапраўднай культурай.**

«Меджду протчым» — гэта і на сёння існуючы тып паўінтэлігента, які далучанасць да кніжнай культуры бачыць найперш у адмаўленні ад народнага светагляду, які з пагардаю ставіцца да роднай мовы, фальклору і г. д. Асобы гэтага кшталту нагадваюць упыроў — імкненнем далучыць да свайго стану людзей, не атручаных нацыянальным нігілізмам. Можна меркаваць, што й Мікіта стаў ахвярай гэткага, так бы мовіць, вампірызму.

Мікітавы прамовы можна спрэс браць у двукоссі як цытаты, як перапевы з чужога голасу. Ды ён і сам ахвотна пералічвае сваіх настаўнікаў: «Меджду протчым, не забывайце, пане беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў Скрынчанкі й Саланевіча. Апрача таго, нас бацька Пурышкевіч, быўшы ў Менску тут, замеціў і, ад'язджаючы, на гэтую місію багаславіў». Іншыя настаўнікі дзейнічаюць непасрэдна ў п'есе. Паміж іх нехта Спічыні, майстра «адбеларушваць». Але найбольш каларытныя — Усходні ды Заходні вучоныя.

ГЭТЫЯ ПЕРСАНАЖЫ, на першы погляд, цалкам сатырычныя. Яны сутыкаюцца на сцэне лбамі. Вітаюцца, размаўляюць і нават лаюцца паводле смяхотнай сіметрыі, толькі адзін па-руску, другі па-польску. У падзорныя трубы разглядаюць «праўдзівага беларуса» Янку, нібы якую дзіўную жамерыну. І кожны на свой вялікарускі або вялікапольскі капыл перакручвае факты гісторыі, культуры, этнаграфіі беларусаў. Карацей, «маленькая камэдыя ў вялікай трагікамэдыі»,— кажа на тое Здольнік.

Але трагічнае праглядаецца й скрозь смяхотную абалонку гэтых вобразаў.

Жахліва горкая іронія змяшчаецца ў рэпліцы Зносака: «Усё гэта, меджду протчым, тутэйшыя людзі: адзін дзякавы сын, другі — арганіставы». Перад намі, такім чынам, пачварная праява мясцовага самаедства, калі «тутэйшыя», абалваненыя «адукацыяй», пачынаюць прафесіянальна абалваньваць іншых.

**Гэтыя двое жывуць нібыта ў сваім, адасобленым часе, які амаль не залежыць ад абставін і часу асноўнага дзеяння. Ні акупацыя, ні іншыя якія перашкоды не замінаюць ім, калі захочацца пранікнуць на сцэну, нават у Мікітаву кватэру, дзе яны пачуваюцца, як у сваёй хаце. Гэта заўважыла Аленка: «На гэтых дык няма ніякага ўгамону! Шнырэць і шнырэць, як сьвіньні ў чужым агародзе». Відаць па ўсім, здольнасць праскокваць скрозь сіта гістарычных абставін у гэтай пары — неад'емная. У рэальным часе мы можам прасачыць працяг іх жыццёвых лёсаў: Заходні крыху паблякне, памізарнее, затое Усходні аднойчы знойдзе сваіх адэптаў паміж гісторыкаў школы Абэцэдарскага. Сёе-тое з іхніх назіранняў трапіць нават у падручнікі: міф аб спрадвечнай нібыта пакорлівасці, забітасці малаадукаванасці беларусаў.**

**Такім чынам, «Тутэйшыя» не толькі абсмейваюць заганныя з'явы свайго часу, але прадказваюць некаторыя будучыя дэфармацыі. Шмат што прарочыць — у парадаксальнай, вядома, форме — усё той жа Мікіта. Памятаеце, як яго пацягнула да беларускага асэсарства, нават вершык развучыў з гэтае нагоды? Дзеля чаго ж яму, заўзятаму русафілу, раптам спатрэбілася беларушчына? А вось: «Беларускае асэсарства, апрача ўсякіх іншых нюансаў, мае ў сабе яшчэ адзін вельмі ласы плюсік — гэта тое, што і па-беларуску, як я пераканаўся, можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-існцінныя прынцыпы а ядынасьці, непадзельнасьці і самадзяржаўнасьці Расійскай, меджду протчым, імперыі». Лексіка, як бачым, яшчэ тая, ад часоў самадзяржаўя й чарнасоценшчыны. Ды Мікітавы лятункі скіраваны і ў будучае, у 30-я гады, калі пад лозунгам аб росквіце нацый высякалася нацыянальная творчая ды навуковая інтэлігенцыя, прытым не без удзелу «беларускага асэсарства».**

Сумная доля запозна прачытаных прароцтваў — сёння яны не адкрываюць новых ісцін, але ўспрымаюцца са скрухаю, з балючым адчуваннем цяжкіх памылак. Пра колішнюю палітыку «збліжэння моў» ужо і на міністэрскім, дзяржаўным узроўні кажуць як пра трагічную памылку. Але ж пра гэта таксама папярэджваў аўтар «Тутэйшых» праз глыбокі сарказм, закладзены ў маналогу Мікіты: «Эх, каб я быў, меджду протчым, царом! Завёў-бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Бэрліну адзін непадзельны рускі язык, і жыў-бы сабе тады прыпяваючы. А то круці галавой над языкамі, як баран які над студняй».

МІКІТАЎ АНТЫПОД, вясковы настаўнік Янка Здольнік — прарок іншага, так бы мовіць, пазітыўнага кшталту. Здаецца, гэтая постаць выведзена на сцэну галоўным чынам дзеля таго, каб прамаўляць аб лёсе Бацькаўшчыны, аб шляхах набыцця беларусамі сваёй дзяржаўнасці, аб адраджэнні нацыянальнай самасвядомасці.

**«Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас ні надзялялі, ніколі яшчэ ня будзем шчасьлівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй. Каб гэтага не было, мы павінны растаптаць, зьніштожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы ня ёсьць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе. Мы павінны душу нашу народную выявіць у сваім «я», у сваёй самабытнасьці і сьмела сягнуць на сваё неадымнае права самім распараджацца гэтым сваім «я».**

**Гучыць, дарэчы, досыць пафасна і тэатральна, аж занадта. Ці не гэты пафас крышку палохаў нашу крытыку, прымушаў яе асцярожна ставіцца да названага персанажа? Ну, скажам, як да «талакоўца» — у тым яго абліччы, як падае «Вячэрні Мінск»? Часам спрабуюць асцярожненька папраўляць Здольніка, нібыта на той выпадак, калі неабачлівы чытач цалкам захопіцца Янкавай апантанасцю.**

Мне ж думаецца, тлумачыць трэба іншае: тыя гістарычныя абставіны, што натхнілі Купалу на стварэнне персанажа, які так аддана жыве беларускай ідэяй, месцамі губляючы пры гэтым чалавечую індывідуальнасць. Гэты вобраз, вядома, збольшага ўмоўны — ён запраграмаваны супраць хваробы «тутэйшасці», сацыяльнай абыякавасці. Таму ягоныя маналогі, рэплікі палемічна завостраны. А зададзенасць персанажа кампенсуецца «раскаванасцю» Зносака і некаторых іншых персанажаў.

Зрэшты, Купала не быў бы Купалам, каб і гэты зададзены вобраз не надзяліў бы глыбокім падтэкстам, які неўпрыкмет памнажае мінорную настраёвасць усяе рэчы. Гэта — горыч і роспач прарока, не пачутага на сваёй айчыне.

Думаю, цяжка будзе ўвасобіць на сцэне гэты вобраз па-за ягоным падтэкстам. Хаця, вядома, могуць быць іншыя, таксама не літаральныя прачытанні...

**Увогуле, гэта адна з найгалоўных загадак: ЯК СТАВІЦЬ «ТУТЭЙШЫЯ» сёння, заўтра? Як звычайную сатырычную камедыю — не выпадае. Трэба найперш пераадолець ранейшыя ўяўленні пра п'есу. Перадусім, пра яе «несцэнічнасць». Памятаеце, яшчэ ў 20-я гады гэтая «несцэнічнасць» нібыта не дазволіла паставіць п'есу слыннаму драматургу Е. Міровічу.**

**«Тутэйшыя» — сцэнічныя, ды ў нетрадыцыйным разуменні гэтага слова.**

**Знарочыстая цыклічнасць мізансцэн, сіметрыя эпізодаў, дыялогаў, нават рухаў. Другі план — гратэскавая рэальнасць, сімволіка поруч з прыземленым побытам тагачаснага Менску. Згадайма сцэну на «Брахалцы»: Абарванец крадзе ў Зносака партманет з расейскімі, польскімі, нямецкімі грашыма, а тады настае «напаўсонная задума» Мікіты, фантастычны танец ценяў пад музыку шарманкі. Развітанне з марамі-лятункамі — цені нікнуць пад вайсковую музыку й крыкі «ўра!». Усё гэта — для тэатра ўмоўнасцей, тэатра эксперыментальнага.**

ТОЛЬКІ НА СЦЭНЕ раскрые п'еса свае таямніцы— і абернецца новымі загадкамі. Мяркую, паўстане і такое пытанне: адкуль мастацкае харастово твора, што вырастае не з «яснасці» ўзважанай, абмеранай, прыстасаванай пад ідэю гісторыі — а з супярэчнасцей, з «белых плям» гэтай самай гісторыі? Ці не адтуль — з духоўных пакут мастака, з ягонага болю, з сумненняў ды азарэнняў, што спадарожнічаюць яму на шляху да няўлоўнае ісціны?

на гаворыць, што «Побач з веданнем усіх нюансаў мовы асоба мае патрэбу і ва ўстойлівай нацыянальнай самасвядомасці, у веданні культуры і гісторыі свайго народа». А ў нас жа гісторыя Беларусі як асобны прадмет, а не дадатак да гісторыі СССР (дакладней, Расіі), не вывучаецца. Няма і асобнага курса геаграфіі рэспублікі. Бо хіба можна лічыць тыя 14 гадзін (7 гадзін у 7 класе на фізічную і 7 гадзін у 8 класе на эканамічную) геаграфіі Беларусі за асобны курс? Спасылкі на тое, што няма адкуль браць гадзіны,— гэта, па-мойму, проста адгаворка.

Няма ў нас сваіх падручнікаў па батаніцы і заалогіі. Вучаць нашы дзеці баабабы, эўкаліпты, сланоў, тыграў, кенгуру, страусаў, пінгвінаў, скарпіёнаў, а сойкі ад дразда, клёна ад ясеня адрозніць не могуць. Калі чалавек не ведае ні флоры, ні фауны сваёй зямлі — жывёл, раслін, рыб, птушак, траў,— у яго не фарміруецца нацыянальнае светаўспрыманне, пачуццё Радзімы.

Беларуская культура сёння апынулася ў такім становішчы, што не можа нармальна кантактаваць з іншымі культурамі. Бо ўсякая нацыянальная культура ўбірае столькі элементаў іншых культур, колькі яна здольна «пераварыць», інакш іншароднае разбурае, дэнацыяналізуе культуру. Чым мацнейшае ядро культуры, мова, на якой яна ствараецца, тым больш яна ўбірае з культур іншых народаў. Сёння ж беларуская мова сама апынулася ў цяжкім становішчы. Таму наша культура паводле інстынкту самазахавання схільная да самаізаляцыі. У выніку дэнацыяналізацыі не ў лепшы бок мяняецца характар беларуса. Слабеюць сваяцкія сувязі. Стрыечны брат (сястра) ужо для нас не радня, а так, дзесятая вада на кісялі. А беларусы ж здаўна шанавалі кроўных сваіх. Нават прыказка ёсць: дзе свой стаіць, там вецер не вее. Мы ўжо не такія гасцінныя. Менш у нас дабрыні і міласэрнасці. Не паважаючы сваіх звычаяў, мовы, саміх сябе, мы не здольны прасякнуцца павагай і да звычаяў і традыцый іншых народаў.

Наша нацыянальнае адраджэнне мы павінны пачынаць з адраджэння мовы. Гэта маё глыбокае перакананне.

**Я. ЛАЎРЭЛЬ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута педагогікі МНА БССР.**

*Чытаючы часопісы*

# Пра той сталінскі «ноеў каўчэг»...

**Словы, сказаныя сакратаром ЦК КПСС А. Якаўлевым на сходзе партыйна-ідэалагічнага актыву ў Літве, прыгадваеш, калі чытаеш аповесць Рыгора Кобеца «Ноеў каўчэг», змешчаную ў трэцім нумары часопіса «Нёман» — «Увесь час думаю, пакутліва думаю, у чым прычына сталінізму? Кажу сабе: у гэтым, у гэтым, у гэтым, а потым сябе спыняю: не. А ў чым, не ведаю... Але мы павінны шукаць ісціну». Сапраўды, гэтае пытанне ў творы (урывак з аповесці, дарэчы, друкаваўся ў свой час на старонках «ЛіМа») пастаянна нагадвае аб сабе кожнаму, хто атрымаў магчымасць яшчэ раз вярнуцца на дзесяткі гадоў назад, робячы пакутлівае падарожжа туды, дзе ў нечалавечых умовах адбывалася «перавыхаванне» па-сталінску, калі побач у лагеры знаходзіліся адпетыя крымінальнікі, рэцыдывісты і тыя, хто чэсна служыў рэвалюцыі, усталёўваў Савецкую ўладу.**

**У гэтым вяртанні ў само пекла сталінскага беззаконня, канечне, ёсць для нас, чытачоў, і нешта знаёмае, пачэрпнутае з іншых твораў. Ды толькі не трэба забываць, што аповесць пісалася яшчэ ў 1964 годзе, а які гэта быў год, сёння добра вядома. Хрушчоўская адліга, якая дазволіла ўдыхнуць веснавога паветра ачышчэння, змянілася павольнымі «замаразкамі». Праз колькі год пра «ўсё гэта» зусім пачалі замоўчваць і нават, як стала вядома літаральна з апошніх публікацый, прымаліся актыўныя захады, каб Сталіна цалкам рэабілітаваць.**

**Рыгор Кобец, як гэта цяпер бачна, па-свойму расчышчаў шлях наступнаму пакаленню літаратараў, тым, хто піша пра сталіншчыну сёння і дзякуючы таму, што працэсы перабудовы незваротныя, будзе да гэтай неўміруча-трагічнай тэмы звяртацца яшчэ неаднойчы. У «Ноевым каўчэгу» — свайго роду штрыхі да партрэтаў сталінінскіх вязняў, але такія дакладныя, што дазваляюць нават прадбачыць у паводзінах людзей тое, чаго аўтару па розных прычынах выказаць не ўдалося. Занатаваў жа, схапіў ён мастацкімі мазкамі найбольш істотнае і важнае.**

**Галерэя пакутнікаў, безумоўна, пачынаецца з Корзуна, чалавека ўжо немаладога веку, нядаўна пяцьдзесят восем споўнілася. З іх — шэсць у лагерах, з іх чатыры — на лесапавале. Ці трэба лішні раз нагадваць, што такое лесапавал для старога, нямоглага чалавека? Тым больш, як бачна, Корзун дайшоў да той апошняй рысы ў сваім існаванні, калі жыццё яго трымаецца ледзь не на валаску. Пастаянна знямоганы, галодны, ён да ўсяго застаўся без валёнак, якія ўкралі зэкі. Для Корзуна пачынаецца сапраўдная барацьба за выжыванне ў гэтых нечалавечых, больш таго— звярыных умовах.**

**Там жа, дзе барацьба, адбываецца і размежаванне людзей. Не кажучы аб ахоўніках, якія Корзуна і тысячы яму падобных нават і за людзей не лічаць, знаходзяцца і сярод зняволеных такія, хто патрабуе для сябе нейкіх прывілей, згодзен хоць у пекла ехаць, ды ўсё ж на чужым гарбе.**

**Патрэбна аддаць належнае Р. Кобецу — яму ўдалося выразна перадаць само дыханне лагернай атмасферы, у якой яшчэ больш апускаюцца людзі з хіжымі душамі і ўзвышаюцца, як гэта ні пакутліва-цяжка ім, тыя, хто нарадзіўся ды і жыў з сакаліным палётам. Таму і трывае Корзун пакуты, пераадольвае іх, што побач, няхай нябачна, прысутнічаюць моцныя духам, маральна чыстыя, не запляміленыя. Яны, маладзейшыя, прыклад яму. Яны ж пацвярджэнне— сапраўднага чалавека ніколі на калені паставіць нельга.**

**У гэтай кагорце на першым месцы Рокатаў, «механік мехпарка, а па-свойску, па-лагернаму, дзядзька Міша». Канечне, незалежна ён трымаецца і па той прычыне, што, акрамя яго, каля лакамабіля дзяжурыць у лагеры няма каму. Аднак не толькі ў гэтым незалежнасць Міхаіла Рокатава. Як высвятляецца, ён быў членам РСДРП і назаўсёды запомніў: партыя і тыя, хто сваёй злачыннай дзейнасцю знеслаўляе яе, не адно і тое. Гэтая вера ў лепшае і справядлівае надае ўпэўненасці не толькі самому Рокатаву, а і тым, хто трапляе пад яго ўздзеянне. Далёка нямногія з іх вырвуцца з «яжовых рукавіц», ды яны, нягледзячы ні на што, усё ж застануцца людзьмі.**

**Балюча пра ўсё гэта чытаць, бо ведаеш, што і пасля вайны ўсё было зусім не так, як думаў пра гэта «дзядзька Міша». Балюча, ды на тое яна і праўда гісторыі. Праўда і ў гэтым: калі-нікалі сама вера ператваралася ў сляпое вераванне. Ды і яно дапамагала! Як і ўпэўненасць Рокатава: «Цяпер трэба ўсімі сіламі, усім народам Гітлера канчаць... вось што галоўнае, першаступеннае. А нашы, унутрысавецкія, так сказаць, сямейныя справы потым высветлім... пасля вайны. Абавязкова высветлім».**

**Дзякуючы Рокатаву не падаюць духам Корзун, былы артыст філармоніі Вася Зленін, іншыя насельнікі «ноевага каўчэга» — так зняволеныя празвалі звычайны карцэр: «Кандэй у той памятны дзень нагадваў сапраўды ноеў каўчэг. Былі тут сем пар чыстых, сем пар нячыстых і чатырнаццаць так... абы-якіх. Былі і законнікі-рэцыдывісты, і бытавікі, быў і пяцьдзесят восьмы артыкул. Адным словам, кожнай твары па пары». І хоць уркі робяць усё магчымае, каб камандаваць і тут, «нячыстыя» ўсё ж вытрымліваюць здзекі, бо ёсць сярод іх Рокатаў.**

**Пісьменнік, праўда, не замыкаецца ў паказе тых, хто высланы сюды на знішчэнне. Яны заслугоўваюць яго найпершай увагі, але ж былі ў лагеры і наглядальнікі, канваіры, знаходзілася нямала вялікіх і малых «начальнікаў», якія і круцілі кола вялізнай машыны знішчэння. Пра іх таксама трэба ведаць усю праўду, а якая яна, гэтая праўда, няблага бачыцца на прыкладзе камандзіра ўзвода аховы Ягадкі. Усё ж, відаць, правільней пісаць «Ягодкі». Так сказаць, самая маленькая шрубка ў «энкэвэдысцкім» механізме, наверсе якога ля штурвала стаяў сам Ягода. Страшная, жудасная постаць! Р. Кобец нешматслоўны, не надта імкнецца ён пранікнуць і ў псіхалогію гэтага вылюдка, каб паспрабаваць высветліць, што кіравала яго дзеяннямі ў той ці іншы момант. Піша, можна сказаць, фрагментарна, але дастаткова саміх фактаў, пададзеных ледзь не з дакументальнай дакладнасцю. Вядомы Ягодка быў тым, што мог злавіць любога самага смелага бегляка з лагера. Паляўнічы-следапыт, ён і на людзей паляваў: «Калі Ягодка пайшоў у тайгу за беглякамі, значыць, ён іх знойдзе, як бы далёка яны ні ўцяклі. Дагоніць і... заб'е. Так, так! Абавязкова заб'е! Не было выпадку, каб Ягодка прывёў бегляка жывым на калону... За гэтыя асаблівыя якасці яму, непісьменнаму «чалдону», і прысвоілі званне малодшага лейтэнанта». Праўда, у лагеры пагаворвалі, што Ягодка ў тайзе звычайна забіваў першага сустрэчнага чалавека, але «тайга-матухна маўкліва маўчала, а сам Ягодка давернічаць не збіраўся».**

**Нават начальнік калоны маёр Багрын, які, не сказаць каб надта патураў зняволеным, не вельмі хавае сваю пагарду да гэтай пачвары з зорачкай малодшага лейтэнанта. Сапраўды, які быў час, такія «героі» выходзілі на авансцэну вялізнага ў маштабе ўсёй краіны, трагічнага спектакля пад назвай сталіншчына.**

**Аповесць Р. Кобеца прывабная тым, што дае магчымасць даведацца яшчэ больш, як жылося людзям, якія па злому збегу абставін сталі «ворагамі». Апошняя кропка ў творы як быццам і не пастаўлена. На паўслове спыняецца расказ зэка Пятуніна, не пазбаўленага таленту паэта, бо чуваць на ўвесь барак азлоблены крык дзяжурнага наглядальніка: «Адбой! І ціха мне! Каб ні гука!»**

**А можа, гэтая апошняя кропка якраз і не патрэбная? Галоўнае, што Р. Кобец дазволіў зазірнуць нам у «ноеў каўчэг», бліжэй пазнаёміцца з яго пакутнікамі. Астатняе... Усім нам яшчэ доўга перагортваць старонкі лёсу гэтых і іншых людзей, заглыбляючыся ў саму сутнасць тагачасных падзей, зноў і зноў пакутліва шукаючы адказу на пытанне, у чым вытокі і прычыны сталінізму.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

## З паэтычнага сшытка

**Васіль МАКАРЭВІЧ**



### Сцяпан Гаўрусёў

Захаравіч!—
Так звалі мы цябе.
Захаравіч! —
Так рэха аклікала.
А сёння боль
У сэрца прама б'е,
Ірве няшчадна
Вострымі клыкамі.

Бубніць ручай
Ці горкі міг кляне,
Куляючыся у вясновай пене?
Пагляд нябёс над Шкловам
Ашклянеў
Ад немае жуды
І утрапення.

Ці бачыць хто
Што з кветкамі ў вянкі
Заплецены асот
З калакалушай.
Які ён, грузны човен
І цяжкі,
Якому плыць наканавана
Сушай.

У горле перасеў
Ускрык ці рык.
Сцьмеў небасхіл
Лірычнага дызайна.
Хоць нельга і сказаць,
Што мацярык
Паэзіі
Аголены дазвання.

Лёс не прыдбаў
Дзеля цябе, нябось,
Ані чыноў,
Ні званняў,
Ні рэгалій.
І толькі шчодрасць
Матчыных нябёс
Ад розных бед
Штодня аберагала.

Душою селянін
І славянін,
Не ведаўся ані з якою
Кастай.
І для вачэй
Пранізлівую сінь
Табе спаўна адшчодрыла
Славянства.

Высока між турботаў
І падзей
Твае заўжды сягалі
Інтарэсы,
Як быццам непасрэдны
Браў удзел
На форумах сусветных
І кангрэсах.

І з дня у дзень
На ўсім сваім вяку
Гарэць было душой
Наканавана.
Ты шчыраваў,
Нібы на рудніку,
Ці кавалём
Ля гулкай накавальні.

Пад крыкі перапёлкі
«Жаць-палоць»,
З неўтаймаванай рызыкай
Стокрылай,
Ты мог такую глыбу
Адкалоць,
Як айсберг,
Ад любога небасхілу.

Ты выбег не з дзяцінства,
А з вайны,
Расхрыстаны,
Упірысты
І босы.
Дасюль грымяць
Трывожныя званы
Ва ўсіх тваіх
Апаленых нябёсах.

Ішоў праз перуновы
Градабой,
Рукамі разграбаў
Манбланы прыску.
І ў кожным томе,
Высненым табой,
Багацця залатога—
Як на прыіску!

Як водгулле
Ваенных катастроф,
Што намі і сягоння
Не забыты,—
У бліскотныя абоймы
Цесных строф
Твае радкі патронамі
Набіты.

Я ведаю,
Што, ходзячы раллёй,
Адшукваў каскі воінскія
У друзе.
І Муза для цябе была
Жняёй,
Як і жняя у жніўным полі—
Музай.

Ды ўсё тужэй
Звужаліся кругі,
Сцінаючы душу тваю
Таксама,
Пакуль не ўвайшлі
У берагі
З халодным зіркам
Апраметнай ямы.

За агароджу,
Як на Калыму,
Праз вузкія і цесныя
Вароты,
Па аднаму сябры,
Па аднаму
Плывуць і адплываюць
Незваротна.

Пакутнік веку
І адданы сын,
Ты браў у рукі і пяро
І вілы.
Прыйду не раз
Адзін я на адзін
Пагаварыць з маўклівюю
Магілай.

Нямая медзь
Заходзіцца ў журбе.
Адчай у кожным гуку,
Як і ў довадзе.
Магчыма, гэты смутак
Да цябе,
Мой дружа,
Праз пласты цяжкія
Дойдзе!..

### Лязо

*Прысвячаю паэту Станіславу ШУШКЕВІЧУ.*

Быццам тонкі срэбны
Палазок,
Ці крывую—ў сінім бляску—
Шабельку,
Беражэ ён
Гэтае лязо,
Кратае рукой
Слабою-слабенькай.

Памяць часам падштурхне
Рыўком,
І—згадаць далёкае
Надарыцца,
Як ад лыжкі тонкім
Чаранком
Спрытна шчэць касіў
На Валадарскага.

Як калісьці бацька
Навучыў,
Што спазнаўся
З царскімі засценкамі,
Лыжкі так абломак
Натачыў,—
Стала вастрыё ў ім
Ценькім-ценькае.

Тым лязом
Магла б уся турма,
Што ад жаху
Абрастала гліцаю,
З гаспадарскай згоды
Задарма,
Як няма чаго рабіць,
Галіцца.

Пра патайнае,
Само сабой
Твар з паголенай усмешкай
Сведчылі.
Ды знайсці і з ласкай
І з гразьбой
Не маглі ані вііжы,
Ні следчыя.

Колькі ажывала з ім
Надзей,
У людзей, што ткалі,
Камінарылі!

---

*Старонкі ўспамінаў*

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

# Над кнігай Анны Ахматавай

На чорнай вокладцы залатымі літарамі запісана Яе імя. Вершы і проза. Як самая высокая паэзія гучаць старонкі прозы:

«Пушкін і Неўскае ўзбярэжжа», «Каменны госць» Пушкіна». А сціслае «Слова пра Пушкіна» чытаеш, як трагічную і гордую паэму: «Ён перамог і час, і прастору».

Пушкін быў яе духоўным настаўнікам.

Кожная старонка кнігі Ахматавай узбагачае душу. Успаміны пра Аляксандра Блока, пра Міхаіла Лазінскага—выдатнага перакладчыка «Гамлета» і «Макбета» Шэкспіра, «Боскай камедыі» Дантэ. Вы бачыце жывое аблічча, адчуваеце характар і сэрца людзей, якія былі яе верай і святыняй. Ахматава згадвае парады Лазінскага: «Калі не вы першая перакладаеце што-небудзь, не чытайце работы свайго папярэдніка, пакуль не закончыце сваёй, а то памяць можа злосна пакпіць з вас...»

З маладосці Анна Ахматава валодала вялікай культурай. Яна пісала толькі аб тым, што праходзіла праз яе душу, было яе ўласным, асабістым.

У тым жа аднатомніку мяне ўразілі ўспаміны пра выдатнага мастака Амэдэа Мадзільяні. Яны сустракаліся ў Парыжы ў 1910 — 1911 гадах. «Быў ён далікатны, але гэта не з'яўлялася вынікам хатняга выхавання, а вышыні яго духу». Ахматаву здзіўляла і радавала неардынарнасць яго захапленняў, яго разуменне хараства. Так, аднаго зусім несамавітага чалавека ён лічыў па-сапраўднаму прыгожым «і вельмі настойваў на гэтым. Я ўжо тады падумала: ён, напэўна, бачыць усё не так, як мы».

Паказвае Ахматава тагачасны Парыж, адносіны публікі да паэзіі. «Вершы былі ў поўным запусценні, і іх куплялі толькі дзеля віньетак больш ці менш вядомых мастакоў. Я ўжо тады зразумела, што французскі жывапіс з'еў французскую паэзію...» Ахматава жартавала, што яе аднагодкамі былі Чарлі Чаплін і Эйфелева вежа.

Нашчадкам пакінуў Амэдэа Мадзільяні малюнак «Ахматава». Жанчына нібыта прылягла на зямлю—вялікую, шматпакутную. Прыслухоўваецца да розных галасоў і гукаў, задумалася аб жыцці і сабе...

Праз пяцьдзесят гадоў Паэт Анна Ахматава напіша верш «Родная зямля».

**А кладземся ў яе і**
**становімся ёю,**
**Ад таго й называем так**
**свабодна —**
**сваёю.**

У юнацтве, бываючы за мяжою, Ахматава нагледзелася на чужыя землі. У 1922 г. яна горда гаворыць: «Не з тымі я, хто край пакінуў. ...Ім песень я сваіх не дам».

Яна заўсёды заставалася вернай зямлі сваіх продкаў, заўсёды пісала з вялікай літары святое слова Радзіма.

Успрымаю лірыку Ахматавай, як музыку Чайкоўскага, Глінкі, Рахманінава. А кніга «Вецер вайны». Хіба не чуецца ў ёй мужнасць Сёмай сімфоніі Шастаковіча?

Яе глыбокая філасофская лірыка, яе драматычныя грамадзянскія вершы і, прасякнутыя жаночай мудрасцю, вершы аб каханні — вызначаюцца праўдай думкі і пачуцця, лаканізмам, пушкінскай яснасцю.

Заканамерна тое, што лірыка кахання належыць па першаму праву маладым. А пачытайце «Паўночныя вершы» (сем вершаў) Анны Ахматавай. Яны былі створаны ў 1963—1965 гадах. І вас уразіць маладое адчуванне жыцця, любові. Любоў з вялікай літары, а не дробныя пачуцці, была неабходнасцю яе душы, яе паэзіі.

**Згадваю дні Айчыннай вайны, калі з вуснаў самой Ахматавай пачула яе вершы.**

**...Невялікая зала на Першамайскай вуліцы Ташкента. Там знаходзіўся Саюз пісьменнікаў Узбекістана.**

**Пачатак 1942 года. Яна, высокая, велічная, у чорнай сукенцы. У строгіх, ясных вачах — прытоены боль. Я чытала аб тым, што яе называюць каралевай, царыцай. Пэўна, гэта было звязана з яе гордай паставай. Але «каралеўскага» холаду не было ў яе позірку! Было адчуванне чалавечай годнасці ва ўсім аблічы.**

**Анна Андрэеўна абаперлася адной рукой аб раяль і пачала свой вечар словамі:**

Но я предупреждаю вас,
Что я живу в последний раз.

**А потым, нібы з блакаднага Ленінграда, гучыць яе голас — Жанчыны, Маці, абаронцы роднай зямлі. Гучаць радкі, напісаныя там, дзе яна шыла мяшкі для пяску. Гэтымі мяшкамі абкладваліся барыкады і помнікі на плошчах.**

**Ахматава чытае, і адчуваецца, што душою яна ў суровым блакадным Ленінградзе, які будзе выратаваны для дзяцей і ўнукаў! Як з жывым чалавекам, размаўляе паэт з статуяй «Ноч», называе яе дачушкай.**

Як мы цябе накрывалі
Свежай садовай зямлёй.

**Верш «Мужнасць» абляцеў франты Айчыннай вайны.**

**Слухаючы голас Ахматавай, я горка думала пра сваю Беларусь, пра Мінск, які на маіх вачах ператварыўся ў руіны...**

**Верш «Клятва», прачытаны на вечары паэтэсай, я спачатку пераклала для сябе, па душэўнай неабходнасці.**

І тая, што будзе
развітвацца з мілым, —
Хай боль свой у сілу
яна пераплавіць.
Мы дзецям клянёмся,
клянёмся магілам,
Што нас на калені ніхто
не паставіць!

**У Ташкент былі эвакуіраваны шпіталі з раненымі. Пасля цяжкіх аперацый, знясіленыя, маўклівыя, яны прымалі паэтычнае слова, як лепшыя лекі.**

**Анна Андрэеўна прыходзіла ў палаты да «няхітрых хлопчыкаў», як яна называла іх. Помніла, як прымалі яе: «Сястрыца прыходзіла, песню расказвала...» Сапраўды, яе голас, яе вершы гучалі, як песня. І, пэўна, параненыя ўспаміналі сваё дзяцінства і сялянак-казачніц з іх напеўнымі, груднымі галасамі. Таму так дакладна ацанілі народнасць яе паэзіі. Пазней, у вершы «Пераможцам», яна скажа:**

Ванькі, Ваські, Алёшкі,
Грышкі, —
ўнукі, браточкі, сыны!

**Не вельмі схільная да слёз, я плачу над кнігай Анны Ахматавай, калі чытаю верш пра маленькіх піцерскіх сірот:**

Прынясі ж мне хоць
жменечку чыстай,
Нашай неўскай сцюдзёнай
вады,
І з галоўкі тваёй залацістай
Я крывавыя змыю сляды.

**У 1942 г. у Саюзе пісьменнікаў Узбекістана збіраліся адзначаць Міжнародны жаночы дзень. На маю долю выпала важнае даручэнне — запрасіць на вечар Анну Андрэеўну. Яна жыла на вуліцы Жукоўскай. Ішла я ў той дом з душэўным хваляваннем. Там жылі ў той час А. Талстой, А. Ахматава, М. Пагодзін, К. Чукоўскі, Б. Лаўрэнёў. Ішла, перажывала: «А што, калі яна хварэе ці занятая?».**

**Анна Андрэеўна адчыніла мне дзверы, запрасіла ў дом.**

**Сур'ёзна выслухала маю просьбу і сказала: «Я прыйду».**

**Узрадавалася я незвычайна і тут жа хацела пабегчы. Але Анна Андрэеўна сказала: «Пачакайце хвіліну. Вып'ем кавы!» Яна паклікала сваю сяброўку, якая, відаць, дапамагала па гаспадарцы. Тая паставіла на стол па кубачку гарачай кавы, ветліва ўсміхнулася: «Не саромцеся, частуйцеся!» (Пасля хатняга «чаю» — кіпеню без заваркі — кава здавалася напіткам багоў).**

**Анна Андрэеўна спытала, дзе я жыла да вайны. Яна пацям-**

# «БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ТЭАТР: СТАН, ПРАБЛЕМЫ, ПЕРСПЕКТЫВЫ»

**Такім быў парадак дня чарговага пленума праўлення Саюза тэатральных дзеячаў БССР, які адбыўся 15 мая.**

**З дакладам на ім выступіў сакратар праўлення СТД драматург А. Дудараў. Прамоўца закрануў найбольш вострыя праблемы сучаснага тэатральнага працэсу рэспублікі, засяродзіўшыся на творчасці трох беларускіх нацыянальных тэатраў—акадэмічных імя Янкі Купалы і Якуба Коласа і тэатра юнага гледача. А. Дудараў падрабязна спыніўся на рэпертуарнай палітыцы сцэнічных калектываў, на няпростых узаемаадносінах паміж драматургамі, рэжысёрамі і акцёрамі. У дакладзе гаварылася таксама аб становішчы беларускай мовы — не толькі на сцэне, але і ў рэспубліцы ў цэлым.**

**Выступленне намесніка міністра культуры БССР У. Рылаткі было прысвечана абгрунтаванню асноўных палажэнняў «Праграмы развіцця тэатральнай культуры ў Беларусі» (праект надрукаваны ў «ЛіМе» 5 мая г. г.).**

**У спрэчках выступілі больш за 20 чалавек. Сярод іх — дырэктары тэатраў І. Вашкевіч і Г. Асвяцінскі, артысты У. Макараў, Ф. Шмакаў, М. Захарэвіч, П. Ламан, Р. Янкоўскі, Н. Піскарова, рэжысёры Б. Луцэнка і В. Раеўскі, мастацтвазнаўцы Т. Гаробчанка, В. Ракіцкі, А. Сабалеўскі і іншыя.**

**Прамоўцы аналізавалі сучасную тэатральную сітуацыю, адзначалі невысокі мастацкі ўзровень многіх спектакляў і п'ес, звярталі ўвагу на чысціню мовы, якая гучыць са сцэн вядучых тэатраў, абмяркоўвалі мэтазгоднасць адкрыцця новых калектываў і беларускамоўных груп. Былі ўнесены канкрэтныя прапановы па выпраўленні становішча.**

**Пленум выказаўся за наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы БССР, а таксама за скліканне аб'яднанага пленума праўленняў творчых саюзаў рэспублікі.**

**У рабоце пленума прынялі ўдзел міністр культуры БССР Я. К. Вайтовіч і намеснік загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ З. К. Прыгодзіч.**

●

**Своеасаблівым працягам пленума стаў «круглы стол», арганізаваны 16 мая камісіяй па акцёрскай творчасці СТД. Рэжысёр Б. Луцэнка вынес на абмеркаванне пытанне, якое закраналася і на пленуме, — аб стварэнні ў рэспубліцы школы-інтэрната з тэатральным ухілам, якая б падпарадкоўвалася Міністэрству культуры БССР і працавала паводле спецыяльнай праграмы. На «круглым стале» абмяркоўваліся варыянты існавання такой школы, рэальныя магчымасці яе стварэння ў бліжэйшы час, накірункі дзейнасці. Прысутныя пагадзіліся на тым, што школы з адным-двума «тэатральнымі» класамі, якія існуюць сёння ў невялікай колькасці, а таксама дзіцячы эстэтычны цэнтр (у ім займаюцца толькі мінчане) — не вырашаць праблем тэатральнай адукацыі ў рэспубліцы.**

**НАШ КАР.**

# ЗАПРАШАЕ СВЯТА КНІГІ

**Заўтра, 20 мая, у 11 гадзін у Мінску на плошчы Якуба Коласа (ля філармоніі) пачнецца святочны кніжны кірмаш, арганізаваны выдавецтвам «Мастацкая літаратура» і Мінскім аблкнігагандлем.**

**Штогод выдавецтва выпускае каля 170 назваў кніг тыражом звыш 9 мільёнаў экземпляраў. Гэта — арыгінальныя выданні і перавыданні твораў беларускіх пісьменнікаў; зборы твораў і выбраныя творы прозы, паэзіі, драматургіі; кнігі па літаратуразнаўстве і крытыцы; перакладныя выданні твораў мастацкай літаратуры вядомых пісьменнікаў народаў СССР і замежных краін. Кнігі «Мастацкай літаратуры» неаднаразова адзначаліся на самых розных выстаўках і конкурсах у ліку лепшых кніг, выпушчаных у СССР. Да іх праяўляюць вялікую цікавасць замежныя кнігагандлёвыя фірмы.**

**На кірмашы чытачы змогуць не толькі набыць кнігі, але і паруліцца аб папаўненні сваёй бібліятэкі будучымі выданнямі: там можна будзе зрабіць папярэдні заказ на кнігі выдавецтва «Мастацкая літаратура» 1990 года. Прыхільнікі творчасці М. Зарэцкага, А. Асіпенкі, А. Пысіна змогуць аформіць падпіску на зборы іх твораў.**

**Адбудуцца сустрэчы з паэтамі і празаікамі розных пакаленняў, работнікамі выдавецтва, арганізатарамі кніжнага гандлю. У свяце кнігі прымуць удзел папулярныя рок-гурты і барды, якія выконваюць свае творы на роднай мове.**

**В. ШЫХАНЦОЎ.**

*На музычнай сцэне*

# Гэты недасяжны свет Караткевіча

**«Дзікае паляванне караля Стаха» ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР**

ЧАЛАВЕК, які спрабуе зразумець сутнасць мастацкай з'явы, асабліва сучаснай, новай, стаіць, на думку саміх стваральнікаў, на мяжы нейкага табу. Звычайна на галаву такіх даследчыкаў-«самазабойцаў», пасля іхніх крытычных экскурсаў, абрыньваюцца гнеўныя тырады, тыпу: «Крытыкаваць заўжды лягчэй, паспрабавалі б самі ствараць...» і да т. п.

**Аднак дыялектыка жыцця такая, што поруч з творцамі-мастакамі існуе і публіка — удумлівая і крытычная. Абедзве гэтыя групы, паяднаныя ніваю мастацкай творчасці, спрачаюцца пра сутнасць мастацтва, ламаючы коп'і, спрабуючы знайсці ісціну. І гэта плённа, калі спрачальнікі — вышэй за дробязныя крыўды, падазронасць у карпаратыўнасці і звядзенне рахункаў з саапернікам.**

**Трапна наконт гэтага сказаў кампазітар С. Сланімскі ў часопісе «Советская музыка» («Рэдакцыйныя гутаркі», № 10 за 1987 г.): «Многім з нас (і мне ў тым ліку) усё жыццё даводзілася слухаць крытыку — слушную і несправядлівую, — спрачацца, ды не скардзіцца начальству. У некаторых жа кампазітараў і музыказнаўцаў укараніўся ганебны звычай: у адказ на прафесійную крытыку пісаць кляўзы ў вышэйшыя інстанцыі... Нясціплае жаданне «насильно милым быть» падаецца як асаблівая пільнасць, клопат пра грамадскі інтарэс... Я стаўлюся да працы крытыкаў з павагай і з разуменнем усіх цяжкасцей. Абавязкова трэба сумленна крытыкаваць тое, што вам не падабаецца. Патрэбна... вялікая смеласць, каб пісаць так, як адчуваеш і думаеш. Хай цябе будуць папракаць у акадэмізме ці, наадварот, у левізне, у чым заўгодна!»**

**Што ж, пашукайма ісціну...**

Пра оперу У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха» загаварылі даўно (праца над спектаклем доўжылася каля двух гадоў). Цікавасць да гэтай падзеі тлумачылася тым, што чакалі новай нацыянальнай сучаснай оперы, чакалі і музычна-драматургічнага ўвасаблення вядомага твора У. Караткевіча, назва якога дала і назву оперы. І вось — прэм'ера. Падзялюся некаторымі ўражаннямі і меркаваннямі, не прэтэндуючы на вычарпальны аналіз оперы (гэта зробяць аўтары навуковых прац на падставе глыбокага і ўсебаковага яе вывучэння).

Цяжкасць размовы пра оперу «Дзікае паляванне...» зразумелая. Тут можна кінуцца ў крайнасць, засяродзіўшыся на параўноўванні лібрэта з аповесцю Караткевіча. Ды і пры «залатой» меры ўвагі да сюжэта доля лібрэтыстаў, якія ствараюць канву опер на аснове наяўных літаратурных крыніц (да таго ж, папулярных), вызначана даўно: быць поруч з кампазітарам у цэнтры пасляпрэм'ернай увагі, а часцяком і прымаць агонь крытыкі на сябе. Ёсць і іншая праблема. Першыя паказы спектакля настолькі розняцца па выканаўчым узроўні, што адно гэта можа стацца тэмай для асобнай гутаркі... І ўсё ж — распачынаю свае нататкі.

**Сюжэт оперы (лібрэта С. Клімковіч) утрымлівае мноства ліній, здатных прыцягнуць увагу да іх спляцення.**

**Дзеянне адбываецца ў 80-ыя гады мінулага стагоддзя ў Балотных Ялінах — глухім кутку Беларусі. У старадаўнім маёнтку жыве юная шляхцянка Надзея, апошняя з роду Яноўскіх. Існаванне гэтага роду здавён азмрочана праклёнам: у далёкія часы Раман Яноўскі забіў свайго пабраціма, самазванага беларускага караля Стаха, які, ужо канаючы, паслаў праклён роду забойцы, прарочачы яго пагібель. Стах, паводле народнай легенды, ператварыўся ў сімвал вечнай помсты — у завадатая балотнага дзікага палявання, якое паслядоўна забірае жыцці нашчадкаў роду Яноўскіх, чарговай і апошняй ахвярай якога павінна стаць Надзея. Пра ўсё гэта даведваецца Андрэй Беларэцкі—вучоны-фальклярыст, які апынуўся ў Балотных Ялінах, збіраючы народныя песні, паданні. Пазнаёміўшыся з Надзеяй, з яе апекуном Дубатоўкам, са студэнтам Свеціловічам, герой спрабуе развязаць вузел тутэйшых загадак. Гэта ледзь не каштуе Беларэцкаму жыцця.**

**Завітаўшы ў госці да Дубатоўка, Беларэцкі ўпэўніваецца ў тым, што гаспадар дома і ёсць завадатар і імітатар дзікага палявання, апантаны жаданнем знішчыць род Яноўскіх, каб завалодаць яго багаццем. Беларэцкаму пагражае смерць. Аднак чорных задум і злачынстваў не можа стрываць беларуская зямля і зацягвае Стаха-Дубатоўка ў сваю багну. Магутнасць і дасканаласць прыроды здзяйсняюць справядлівы суд.**

Гэта, як зразумеў дасведчаны чытач, не пераказ Караткевічавага твора, а інтэрпрэтацыя сюжэта оперы, зробленая аўтарам нататак, які пазнаёміўся з прэм'ернымі спектаклямі і не раз перачытаў аповесць. Падкрэсліваю гэта, бо анатацыі да оперы, кароткага зместу яе дзеяў глядач у праграмках не ўбачыў. Стваральнікі пастаноўкі пагадзіліся на гэта (і гаварылі на пасяджэнні за «круглым сталом» у ДАВТе 16.IV. 89 г.), маючы на мэце ўзбагаціць гледача магчымасцю як мага больш пра оперу дадумаць самому. Асмелюся дапусціць, што прапанаванае мною прачытанне зместу оперы, пры ўсёй яго схематычнасці і лаканізме, можа падацца сюжэтна больш ясным за змест самога спектакля — для слухача непадрыхтаванага.



Сцэна са спектакля «Дзікае паляванне караля Стаха». Фота Ул. КРУКА.

Спектакль уводзіць у свет беларускага шляхецтва. З аднаго боку, старажытная беларуская шляхта, якая вымірае, але з вялікімі намаганнямі трымаецца за жыццё. З другога — шляхта збяднелая, якая імкнецца самавызначыцца ў інтэлектуальнай дзейнасці, у вывучэнні жыцця, гісторыі, творчасці народа (а ў кнізе — і ў магчымым паляпшэнні ягонай долі). На адным полюсе апынаецца сіла шляхетнага духу, які канае і імкнецца сцвердзіць сябе праз зло— вобраз Дубатоўка (А. Кеда, У. Экнадзіёсаў). На другім — бездапаможнасць і дабро ў вобразе Надзеі (Т. Глаголева, Н. Кастэнка), новыя сілы надыходзячых перамен у вобразе Беларэцкага (Ю. Бастрыкаў, В. Скорабагатаў) і ў вобразе, пры ўсёй яго схематычнасці, студэнта Свеціловіча (І. Шупеніч).

Панаванне гэтых сэнсавых ліній у оперы падкрэсліваецца самім кампазітарам. Менавіта названым персанажам належаць разгорнутыя вакальныя нумары. Кампазітар надзяляе іх і аркестравымі лейттэмамі і лейтінтанацыямі. Летуценная, грацыёзная лейттэма Надзеі — вальс, поўны безабароннасці і трапятлівасці. У оперы гучаць лейтінтанацыі беларускай шляхты на аснове тэмы хору «Добры вечар...» з I дзеі; лейтінтанацыі прадчування чагосьці жудаснага як вестуны з'яўлення Дубатоўка.

Значны сімвалічны вобраз дзікага палявання, які на працягу амаль усяго спектакля падаецца як музычна-светлавая персаніфікацыя і набывае зрокавыя і досыць рэалістычныя рысы людзей з конскімі маскамі толькі ў фінале. Сама лейттэма — аркестравая карціна шалёнай скачкі, што нібы змятае ўсё на сваім шляху, са шчыльным па-вагнераўску гучаннем медных у сваёй кульмінацыі, з аглушальным выбухам ударных — стук капытоў вольных коней, з таямнічнай імітацыяй поклічаў далёкага паляўнічага рогу.

Яшчэ адну лінію оперы можна ўмоўна вызначыць як народную: гэта музычная персаніфікацыя беларускага народа —хор «Ой, ляцелі гусі...» і разгорнуты вакальны нумар — песня селяніна Рыгора (Я. Пятроў, М. Рысаў) з II дзеі.

У музычнай вобразнасці спектакля відавочны прыярытэт аркестра — ён для У. Солтана, бадай, больш «паслухмяны інструмент», чым чалавечы голас. Аркестравыя нумары цікавейшыя, больш арганічныя і разнастайныя. Вось чаму безумоўнай удачай працы кампазітара сталіся аркестравыя лейттэмы. Удалыя і харавыя эпізоды, на што паўплывала і майстэрства артыстаў хору (хормайстры А. Кагадзееў, Н. Ламановіч, Г. Луцэвіч).

Вакальна-сольная плынь оперы крыху статычная. Расказ Дубатоўка, арыёза Надзейкі, Беларэцкага грунтуюцца на традыцыйнай куплетнай форме або на яе элементах, што збядняе драматургічныя оперныя мажлівасці развіцця вобразаў. Слабым бокам оперы здаецца і адсутнасць дынамічных камерна-ансамблевых сцэн. Так, у I дзеі не атрымліваецца паўнацэнны квінтэт, а логіка опернай кампазіцыі і псіхалогіі слухацкага ўспрымання вядзе да яго, бо на сцэне прысутнічае пяць персанажаў: Беларэцкі, Свеціловіч, апякунскі саветтрыо з Дубатоўкам на чале.

Было б памылкаю папракаць пралікамі аднаго кампазітара. Само лібрэта ўносіць у спектакль пэўны схематызм. Для аргументацыі гэтай думкі звернемся да асобных момантаў аповесці. Які там, скажам, вобраз Надзеі?

**Напачатку перад намі запалоханая, амаль знявечаная прыгнётам страху істота, вартая жалю. Але ў сцэне балю гэта ўжо беларуская шляхцянка старажытнага роду, апранутая ў старадаўні ўбор, якая адчула колішнюю ўпэўненасць продкаў: «Твар яе, да таго засяроджаны і няпэўны, стаў раптам простым і вельмі мілым. Вочы заіскрыліся, ніжняя губка трошкі выдалася наперад... «Вось я, — як быццам казала яе душа праз вочы, вялікія, чорныя і бліскучыя, — вось яна я. Вы думалі, што мяне няма, а я тут, а я тут. Хоць у адзін гэты кароткі вечар я паказалася вам, і вы здзівіліся. Вы лічылі мяне нежывой, бледнай, бяскроўнай, як парастак вяргіні ў падполе, але вы вынеслі мяне на свет... Бачыце, і жывая зелень з'явілася ў маёй сцябліне...» — піша Караткевіч. Пазней у размове Надзеі і Беларэцкага паўстае яшчэ адна Надзейка — з «высакароднасцю і прыгажосцю душы».**

**А ў оперы — адна і тая ж Яноўская, з той розніцай, што сяды-тады яна танцуе. Шкада, што не рэалізаваўся тут акцёрскі патэнцыял спевакоў. Бо мы ж ведаем сцэнічныя магчымасці, напрыклад, Н. Кастэнкі: яны багатыя і дзейсныя пры ўвасабленні любой ролі.**

**Тое ж адчуваеш, угледзеўшыся пільна і ў вобраз Дубатоўка. Пастаноўшчыкі і выканаўцы стараюцца сцэнічна паказаць лінію ягонага ператварэння з вясёлага балбатуна ў зладзея, завадатара дзікага палявання, які цынічна скідае сваю маску, — але ж гэта не закладзена ні ў лібрэта, ні ў музыцы. Перад намі на працягу ўсёй оперы — шляхціц-самадур, дый толькі. Аднолькавым выглядае і Беларэцкі.**

**Сіла ж твора Караткевіча (апроч захапляючай дэтэктыўна-фантастычнай фабулы) якраз у тым, што аўтарам даецца гама псіхалагічных паўтонаў характараў, паказваецца розны стан душы герояў, у тым ліку і кульмінацыйны, калі спадаюць маскі, раскрываюцца сапраўдныя твары.**

**Падкрэслю, што хоць і можна ўмоўна ў оперы вылучыць народную лінію, яе ўсё ж успрымаеш як штосьці чужароднае рамантычнай оперы-легендзе. Бо выхад селяніна Рыгора з яго вакальным нумарам, узвышаным да сапраўды трагічнага напалу, не мае ні лагічнай падрыхтоўкі, ні лагічнага працягу. У оперы не развіта, пазбаўлена арганічнасці і сацыяльная лінія, нягледзячы на палітычна завостраныя рэплікі Свеціловіча і Беларэцкага пра лёс народа, ягоную долю, жорсткую і тупую ўладу над ім чыноўніцкай бюракратыі.**

Найбольшую цікавасць выклікае ў новым творы яго фантастычна-рамантычны струмень, а найменшую—псіхалагічны. (Хоць аўтары спектакля, а таксама некаторыя музыказнаўцы не пагаджаюцца, што спектакль набыў, мо і нечакана, казачную арыентацыю). Для такой трактоўкі новага твора лагічным робіцца яго фінал: аб'ектыўнае прыроднае знішчэнне зла — цуд яго сімвалічнага звяржэння (у адрозненне ад фіналу аповесці, дзе мужыкі і Беларэцкі знішчаюць злачынцаў - пярэваратняў дзікага палявання).

Не бяруся разважаць, наколькі шчыра сцвярджаюць стваральнікі, што змяненне Караткевічавай канцоўкі ў спектаклі абумоўлена жаданнем пазбавіць яго ад трафарэтнага манументальнага купнага фіналу—карціны народнага паўстання. Рэжысёр В. Цюпа аргументуе такое змяненне і тым,

што ў рукапісах Караткевіча ёсць варыянты заканчэння аповесці. Але мне ўсё ж думаецца, што Караткевічаў фінал лагічна вынікае з усёй плоці твора, дзе адна з лейттэм — жабрачае жыццё беларускіх сялян, якія пакутуюць яшчэ і ад прыгнечанасці страхам перад дзікім паляваннем. У оперы ж гэтая тэма — самая схематычная і павярхоўная. І музычны твор, нібы выходзячы са спецыфікі і недахопаў лібрэта, як быццам сам скіроўвае пастаноўшчыкаў да змянення сюжэтнага канца.

Такім чынам, «Дзікае паляванне...» паўстала ў абліччы рамантычнай оперы-казкі па матывах аповесці Караткевіча. Такое творчае вырашэнне мае права на жыццё. Толькі не трэба «мудрствовать лукаво», шукаючы сацыяльна - палітычныя глыбіні, народна-псіхалагічнае багацце там, дзе іх няма: не шукаем жа мы такую скіраванасць у «Сабаку Баскервіляў» А. К. Дойла. Канечне, першае ўражанне ад прэм'еры неспадзяванае — бачыш не музычна - драматургічнае ўвасабленне аповесці, а казачна-рамантычную вынятку, авеяную каларытам старызны.

Заўважу, што к трэцяму спектаклю пэўныя пастановачныя і выканаўчыя хібы былі пераадолены, і тады, нарэшце, можна было зазначыць агульную дынаміку дзеяння. Вялікая заслуга ў гэтым дырыжора А. Анісімава, які правёў спектакль на высокім прафесійным узроўні.

**Праўда, па-ранейшаму малапераканальнымі засталіся асобныя мізансцэны. Алагічна, скажам, маўклівая прысутнасць Дубатоўка і апякунскага савета на верхняй пляцоўцы пад час не надта выразнага дыялогу Свеціловіча і Беларэцкага ўнізе. Не зусім зразумелы пачатак II дзеі. Цудоўны хор «Ой, ляцелі гусі...» доўга гучыць за сцэнай. Ягоная распеўнасць нібы просіць, каб гучанне наблізілася, выпрасталася, вымагае кульмінацыі. Да таго ж, хор даецца нібы фонам... фону: на прыцемненай сцэне ля раскідзістага дрэва стаіць спінай да гледача Беларэцкі, апанаваны сваімі думкамі. Дзеяння няма, ёсць толькі спроба сцэнічнай «застаўкі» музыкі, якая гучыць.**

**Пэўныя парушэнні драматургічнай логікі бачацца ў сцэне сваркі ў доме Яноўскай (1 дзея). Паводле Караткевіча, Варона і Беларэцкі высвятляюць адносіны ў доме Дубатоўка, і гэта іншая справа: мужчынская кампанія, распаленыя віном галовы, да таго ж, абражаны гонар не толькі Беларэцкага, а і Яноўскай. Змяненне ў оперы месца і нагоды сваркі пазбаўляе гэтую сцэну сэнсу, а пісталеты ў руках... выклікаюць усмешку. Бо, спадзяюся, не будзе аспрэчвацца думка пра тое, што ў канцы XIX стагоддзя ў прыстойных дамах, нават пасварыўшыся, госці не хапаліся за пісталеты.**

**Ёсць у спектаклі цікавая знаходка «ажыўлення» старадаўняга партрэта — сімвала выклятага роду. Удалая знаходка нечаканага, таямнічага і страшнаватага з'яўлення Дубатоўка. Наогул жа, хацелася б большай вынаходлівасці ў рэжысёрскіх, выяўленчых сродках для паказу таямнічасці. На мой погляд, вобразнасць спектакля выйграла б ад выкарыстання ў містычных эпізодах тэле-, кіна-, слайдпраекцыі.**

**Многа прыцягальнага ў сцэнаграфіі (мастак Э. Гейдэбрэхт). Адпавядае духу аповесці выява старажытнага замка-крэпасці і механічнага гадзінніка, які пачынае свой рух у кульмінацыйныя моманты. Цудоўныя партрэты продкаў Яноўскай, а ў фінале — *маскі палявання*, зробленыя ў духу рамантычнай і загадкавай даўніны. Палемічныя ўражанні ў асобных сцэнах ад касцюмаў (мастак Э. Грыгарук), асабліва ў карціне балю з 1 дзеі. У Караткевіча найпершая адметнасць Дубатоўка — ягонае з'яўленне ў старадаўнім мудрагелістым уборы. У спектаклі ж амаль усе прысутныя апранутыя аналагічна.**

Няма сумнення — праца над спектаклем працягваецца. Пажадайма, каб засталося галоўнае, уласцівае яму ў цэлым: творчае гарэнне ўсёй групы стваральнікаў. Думаю, опера (пры пэўных яе недахопах) набудзе стабільнасць і прызнанне ў публікі. Пры ўсёй крытыцы, што прагучала на адрас маладога кампазітара, дэбют у оперным жанры акрыліць яго глядацкім і слухацкім поспехам, які, вядома, быў у красавіцкіх прэм'ерах «Дзікага палявання...»

Наталля СЦЕПАНЦОВА.

# «...МНЕ РОБІЦЦА РАДАСНЕЙ ЖЫЦЬ»

**«ДАРУЙЦЕ незнаёмаму чалавеку за тое, што ён піша да Вас. Паспрабую растлумачыць маю нетактоўнасць... Я — літаратар. Спадзяюся, напачатку гэта вытлумачыць і маю цікаўнасць, і маю гарачую зацікаўленасць, і маё навязлівае, як гэта можа Вам здавацца, умяшанне.**

**Мяне запрасілі выступіць на возера Свіцязь, дзе гэтымі днямі праходзіць семінар маладых работнікаў мастацтва. Ехаў неахвотна, але цяпер пераканаўся, што ехаў недарэмна, што зрабіўся багацейшы.**

**На семінары выпадкова трапіў *на лекцыю выкладчыка політэхнічнага інстытута А. У. Хадыкі*. Думаў, буду сумаваць, але даклад ягоны ўразіў мяне прадуманасцю, веданнем справы і мэты. І яшчэ тым, што ён быў нібыта доказам таго, што ў нас — і, магчыма, у самы бліжэйшы час — можа нарадзіцца новая архітэктура. Я не мог пра гэта і думаць. Думаў — няма выйсця і доўга не будзе. Тупік. Новае нешта вымысліць — трэба мазгі лепшыя, чым у нашых. Бо такая агідная — і гэта ж надоўга, бо дом не на адзін дзень будуюць — робіцца на вуліцах нашых гарадоў.**

**І тут раптам безліч цікавага. Але што асабліва мяне ўразіла ў гэтай безлічы — гэта Вашы ідэі: кавярні «Павуціна» і «Эскімос». Я ўбачыў у іх тое, чаго нам так пакутліва і доўга, гадоў ужо 150, не меней, не ставала: арыгінальнасць думкі, смеласць яе, мудрагелістую мэтазгоднасць будовы. І яшчэ найвышэйшае з уменняў — мысліць глыбокімі аналогіямі. І яшчэ глыбіннае разуменне ідэі пабудовы, сімвалічнасць яе, ці што. Вядома, у сім-тым гэта яшчэ не вытрымана, як мала-**



**дое віно, але ўсё адно гэта — цудоўна! Не лухта якая-небудзь, а тое, што прымушае задумацца нават пра сэнс жыцця. Гэтага, нашага, сціснутага, як дзіця, што расце ў збане, але жывога, у чым і зарука таго, што збан пад напорам гэтага дзіцяці трэсне.**

**Але, ледзь не забыў пра самае важнае. А яно, на мой погляд, — Ваша клаўзура (тут: эскіз, які змяшчае ў сабе асноўную ідэю, канцэпцыю будучага праекта. — У. А.) «Абсурд». Бог ведае, як гэта Вам удалося, але гэта сцвярджэнне нашае адзіноты ў жыцці і спадзяванне — надзейная зарука таго, што з адзіноты ёсць выйсце. Я на хвіліну ўявіў, што праседзеў вечар на такой пляцоўцы. Адзін. Бачачы на розных іншых узроўнях такіх самых самотных. І раптам мяне нястрымна пацягнула з пакоя да людзей. Рагатаць ад радасці, што яны ёсць, ляпаць іх па плячах і цалавацца я, вядома, не пачаў, але ж і стан быў уяўны: не сядзеў я за гэтым Вашым сталом.**

**Вось так. Можа, гэта і растлумачыць маё жаданне напісаць да Вас. Людзі часам занадта самотныя, і ім трэба ведаць, што нехта здагадваецца пра гэта. А калі і не самотныя — душы не пашкодзіць, як даведаешся, што нехта незнаёмы на хвіліну падумаў пра цябе. Ад гэтага разрываецца Ваша «павуціна» і нараджаецца невідочная сетка, якая лучыць душы ўсіх сапраўдных — ад краю да краю зямлі — дзе б яны ні жылі. Таму я адрэкамендаваўся, узяў у А. У. Хадыкі Ваш адрас і вось раблю гэты неабдуманы крок.**

***Разумееце, мяне проста* скруха агортвае ад нашага беларускага заняпаду. І калі я бачу, што ЖЫЦЦЁ НАША УСЁ Ж раптам прарываецца ў добрай кнізе, карціне, проста накідзе, клаўзуры, — мне робіцца радасней жыць. І лягчэй верыць, нават калі ведаеш, што гэтага цяпер не дазволяць. Галоўнае: людзі думаюць. І калі-небудзь — веру, што ён не за гарамі — прыйдзе час, калі дыктаваць будуць розум і талент.**

**Зразумела, шмат што — яшчэ накід, шмат што недасканала. Але ёсць жывая думка, якая расце. І тут, магчыма, зарука таго, што адродзіцца геніяльнае беларускае дойлідства, адродзіцца, нарэшце, у новай якасці, якія б гэтаму ні чынілі перашкоды. Адродзіцца дзякуючы тым маладым, якія ідуць у яго, хоць ім цяжка, як мне, як А. У. Хадыку (на семінары ён, праўда, меў вялікі поспех, але відаць, што дасягнуць гэтага яму было цяжка), як шмат каму іншаму і як, напэўна, Вам, бо шлях любога таленту — крыжовы шлях. Працуйце, дзеля Хрыста, і няхай дасць Вам бог сілы.**

**P. S. Калі надумаеце чыркануць мне пару слоў — мой адрас... Калі на гэта не хопіць часу і ахвоты — таксама нічога. Але толькі працуйце і няхай мне лёс яшчэ няраз пашле радасць ад сустрэчы з Вашымі праектамі, а потым, безумоўна, і будынкамі.**

**29 мая 1968 г. Свіцязь».**

Нават калі б пад гэтым лістом (да сённяшняга дня ён быў невядомы нашым літаратуразнаўцам, таму і прыводжу яго цалкам) не стаяў подпіс, шмат хто, безумоўна, здагадаўся б, каму ён належыць, хто дваццаць гадоў таму мог так думаць, пісаць і пакутаваць. Але подпіс ёсць — Уладзімір Караткевіч.

Адрасаваны ж ліст студэнту трэцяга курса архітэктурнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута Валерыю Слюнчанку, які ў тыя вясновыя дні, зняверыўшыся ў магчымасці ўвасаблення сваіх ідэй, вырашыў кінуць вучэнне. Утрымалі згаданы вышэй А. У. Хадыка і Караткевічавы словы, што паводле нявызнаных законаў і сілавых палёў той самай «невідочнай сеткі», якая лучыць жывыя чалавечыя душы, леглі — без чыёй-небудзь падказкі — на паперу якраз тады, калі ў гэтым была найбольшая патрэба.

Уладзіміру Сямёнавічу не давялося ўбачыць спраектаваныя яго адрасатам адметныя сучасныя будынкі, але ў галоўным ён не памыліўся. Ды і парадавацца таму, што зрабіў Валерый «у адраджэнні геніяльнага беларускага дойлідства», пісьменнік яшчэ паспеў.

Пасля інстытута ён абраў шлях рэстаўратара, стаў аўтарам праекта аднаўлення полацкага Сафійскага сабора, па сутнасці, першага аб'екта беларускіх рэстаўратараў. Затым былі Багаяўленскі і Крыжаўзвіжанскі саборы ў Полацку, праекты рэстаўрацыі помнікаў Мсціслава і Гародні, сядзібы Францішка Багушэвіча ў Кушлянах...

Устрымаюся ад дылетанцкіх разважанняў — аналізам зробленага В. Слюнчанкам няхай *займаюцца спецыялісты*. Але хачу зазначыць тое, што яны, мыслячы сваімі катэгорыямі, могуць і не заўважыць: Валерый не толькі сапраўдны прафесіянал (а ў яго справе дзеля гэтага трэба быць і архітэктарам, і гісторыкам, і мастацтвазнаўцам), ён, *так бы мовіць*, рэстаўратар усім ладам сваё душы, якая шукае суладнасці і паўстае супроць разбурэння ў любой сферы духоўнага быцця — ад мастацтва да натуральных чалавечых дачыненняў у сям'і. Можа, менавіта гэтая якасць і прадвызначыла ягоны жыццёвы выбар.

Згадайма блізкія яшчэ ад нас часіны, дыпламатычна названыя «застойнымі». Рэстаўрацыя архітэктурных помнікаў была тады адной з нешматлікіх магчымасцяў рэальнай барацьбы з метадычным шырокім наступам на нацыянальную культуру, з руйнаваннем гістарычнай самасвядомасці народа. Праца В. Слюнчанкі была найбольш звязана з Полацкам, дзе «свая» ўлада знішчыла помнікаў больш, чым фашысц*кія захопнікі*. (*У друку рабіліся спробы ўзяць гэта пад сумненне, але апублікаваныя ў 2-м нумары «Нёмана» за 1989 г. матэрыялы «круглага стала» па праблемах захавання архітэктурнай спадчыны пацвердзілі сумную выснову канкрэтным пералікам зруйнаванага*). І ўсё ж, нягледзячы на велізарныя страты, Полацк няўхільна вяртае сабе пазіцыі аднаго з галоўных духоўных цэнтраў Беларусі. Найперш прычынілася да гэтага аднаўленне і другое жыццё полацкіх *помнікаў старажытнасці*.

Памяць добра захавала словы В. Слюнчанкі на адкрыцці першай выставы ў адрэстаўрыраваным і аддадзеным пад карцінную галерэю Багаяўленскім саборы. Ішоў 1981 год. У тагачаснай задушлівай хлуслівай атмасферы гэтая падзея была для палачан (і, вядома, не толькі для іх) праблескам чысціні і надзеі. Памятаю, як нязвыкла і крыху разгублена глядзелі на белыя муры адноўленага храма «моцныя людзі» горада. З вокнаў сваіх недалёка размешчаных кабінетаў яны прывыклі бачыць іншае— іржавыя купалы без крыжоў, абшарпаныя брудныя сцены з надпісамі, што красамоўна сведчылі пра заваёвы нашае культуры. Мне здаецца, тады кіраўнікі (і не толькі гарадскога маштабу) яшчэ лічылі рэстаўрацыю нейкім новым, часовым і не надта сур'ёзным павевам. Зусім нядаўна было іншае: сапёры, выбухі, 40 тысяч рублёў, выдаткаваных з гарадскога бюджэту на вываз «смецця» пасля зруйнавання Мікалаеўскага сабора... Яўным дзівацтвам здавалася ім і беларуская мова, што гучала з вуснаў элегантнага, бездакорна апранутага аўтара праекта рэстаўрацыі.

Памятаю іншы святочны дзень — першы канцэрт у адноўленай Сафіі на пачатку 1983 года. Цёплыя водсветы жырандоляў на пазалоце ракайлю, беларуская музыка барока ў выкананні ансамбля «Кантабіле», засяроджаны і трохі журботны позірк Валерыя, выступленне чыноўніка, які чытаў па паперцы, але ўсё адно блытаўся ў словах «благодарный» і «благородный», называючы сябе і прысутных у зале «благородными потомками» (а мо і не блытаўся, *а сапраўды лічыў сябе высакародным нашчадкам цёмных і забітых продкаў*).

А яшчэ прыгадваю, як сябры наваполацкага клуба «Маладзік», што разам з мінскай «Майстроўняю» ў канцы сямідзесятых гадоў стаяў ля вытокаў *цяперашняга* «нефармальнага» маладзёжнага руху, пасля суботнікаў у Сафійскім саборы слухалі лекцыі В. Слюнчанкі пра беларускую готыку, беларускі рэнесанс і барока, лекцыі, у якія пасля чарговага слайда нечакана, але арганічна *запляталіся* радкі Буніна, Караткевіча ці Мандэльштама.

Понять пространства
внутренний избыток
И лепестка и купола залог...

І гэтыя лекцыі, маленькія паэтычныя ці музычныя вечарыны, якія Валерый наладжваў з калегамі ў сябе ў архітэктурным аддзеле аб'яднання «Белрэстаўрацыя», і напісаныя ім кніжкі «Полацкі Сафійскі сабор» і «Архітэктурныя помнікі Полацка»— таксама частка яго працы рэстаўратара.

Усіх нас доўга і досыць паспяхова вучылі жыць *марамі* пра светлае заўтра, якое неўпрыкмет ператваралася ў светлае паслязаўтра і пачынала ўвогуле губляць нейкія часавыя арыенціры, трансфармуючыся ў фантом. Нас амаль што пераканалі, што сённяшнім днём жывуць адно абывацелі. А можа, усё-такі мы павінны жыць менавіта сённяшнім днём — так, каб дзень гэты быў повен не толькі будзённых дробных клопатаў, але і спагады, і любові да бліжніх, і паэзіі, і гісторыі... Пра гэта гаварылі мы з Валерыем пад час апошняе сустрэчы на старых полацкіх вуліцах, якія вядуць з мінулага ў прышласць, робячы наша сёння больш глыбокім і шматмерным.

Ну а непасрэднаю прычынаю напісання гэтых кароткіх нататак было надрукаванае ў рэспубліканскіх газетах паведамленне ад камісіі па прэміях прафсаюзаў Беларускай ССР у галіне літаратуры і мастацтва. Дзякуючы Беларускаму фонду культуры сярод вылучаных і Валерый Слюнчанка —за праекты рэстаўрацыі полацкага Сафійскага сабора, Каложскай царквы ў Гародні і Кармяліцкага касцёла ў Мсціславе. Вядома, ёсць прэміі і больш прэстыжныя. Але за рэстаўрацыю архітэктурных помнікаў у нас на Беларусі ні званняў, ні прэмій ніхто ніколі яшчэ не атрымліваў. Спадзяюся, што гэта нарэшце здарыцца і стане фактам грамадскага прызнання і таго, што зроблена Валерыем Слюнчанкам, і самой значнасці справы, якой ён служыць.

**Уладзімір АРЛОЎ.**

Паэзія

**Алег МІНКІН**



## Сон

Я сніў, што дождж зацяты перасціх,
І промень коса ўпаў на горад мокры,
І заблішчэў на лужынах, на вокнах,
На дахах, на асфальце, на лісці.

І там, дзе панавала кагадзе
Здранцвенне, — там завесы зарыпелі,
І горад змрочны пасвятлеў ад белі
Убранняў выбягаючых людзей.

І з кожнай вулкі, кожнага двара
Я чуў іх смех і плакаў сам ад шчасця,
А недзе спеў забыты нараджаўся...
У тую ноч мне сніўся вольны край.

## Балада пра чалавекаптаха

Нехта ўсімі забыты
цягнуў па бруку крылаў ашмоцце
і праклінаў жалезабетонныя пліты
і задыхаўся ў бензінавым смуродзе
а мерцвякі закутыя ў бляшанкі
як жамяра ў бурштын
праносіліся ля яго маланкай
і слухалі сімфонію шын.

Лётаюць шматкі газеты над дахам
а сярод іх агністае пёрка
з крыла чалавекаптаха
закаханага ў зоркі
ён газету парваў на шматкі
і да зорак пайшоў напрасткі
пакінуўшы пёрка як знак
што не крыўдуе на чалавекасабак.

## Металіст

Пад небам колеру меднага купарвасу
На размякчэлым асфальце пакідаючы сляды
Я брыў з застыгла-абыякавай грымасай
Вірлівым праспектам у прышлае Нікуды
І жалезабетонам акуты не марыў пра ўцёкі
У край дзе ногі сцюдзёнай расой казытала
І ў целе бетонным маім гарачым ад спёкі
У тахт маім крокам тахкала сэрца з металу

Ад псеўдахараства навачасных будынкаў
Помнікаў безназоўнага часу і спустошаных душ
У твае Траецкае прадмесце старасвецкія абдымкі
Я хаваюся як у густую траву хаваецца вуж
Чырвань тваіх дахаў будзе да скону зрок
мой лашчыць
І я ані зварухнуся нават і тады
Калі мяне ў тоўшчу асфальту ўтрамбуе
асфальтаўкладчык
Пракладваючы новы і шырокі праспект у Нікуды

## Прэлюдыя

Калі я губляю ў бяззорнай, бяздоннай начы
І сэнс існавання, і веру ў сваё прызначэнне,
Прыходзіць жанчына, якая заўсёды маўчыць —
Жахлівай красы і распусная да абурэння.

Яе валасы, як гадзюкі, спадаюць з плячэй
На ўзвышшы грудзей бессаромных,
на пругкія клубы,
Жаданне затоена ў зрэнках вільготных вачэй,
І ад нецярплівасці ўздрыгваюць прагныя губы.

Зданнём-насланнём наплывае яна на мяне,
І я абдымаю яе ненатольнае цела,
Нібыта тапелец, сціскаю мацней і мацней
І падаю ў бездань, аслеплы, глухі, звар'яцелы.

І ўсё ж у той змрок, дзе шалее пажадная плоць,
На самае дно ва ўладанні сляпой асалоды
Усёдаравальна і поўны спагады гасподзь
Жанчыну-анёлку прыводзіць па правідных сходах.

Павольныя рухі. Вясёлкавы німб над чалом.
Бязважкага цела абрысы. У поглядзе — цнота...
І вось, завінуты зычліва празрыстым крылом,
Я слухаю голас сатканы з цяпла і пяшчоты.

О, як безбалесна, як лёгка ісці крок у крок
З анёлкай ратуючай і адчуваць яе блізкасць,
І слухаць пра неба, дзе сутнасці нашай выток,
Дзе ўсё дасканала — да самай астатняе рыскі.

І вунь ужо выйсце. За ім — вышыня, далячынь...
І ўсё ж на апошняй прыступцы глухіх сутарэнняў
Мяне даганяе, якая заўсёды маўчыць —
Жахлівай красы і распусная да абурэння.

# «Я—ЗА ВЫХАВАННЕ ПРАЎДАЙ»

(Пачатак на стар. 1).

няе кожная ВНУ зафіксуе ў сваім «Статуце» ў адпаведнасці з мясцовымі ўмовамі, патрэбамі і традыцыямі. Ад шматаблічнасці мастацкіх ВНУ — да шматаблічнасці нацыянальных школ.

Хацелася б, каб «Палажэнне» не засталося дэкларацыяй, а на справе гарантавала самастойнасць ВНУ. Самастойнасць жа магчыма толькі пры адпаведнай матэрыяльнай базе. А пакуль, як вядома, у галіне культуры (мастацкай адукацыі, у прыватнасці) дзейнічае прынцып рэшткавага фінансавання.

**— Васіль Пятровіч, не сакрэт, што часам не выконваюцца ці выконваюцца не цалкам нават дзяржаўныя пастановы па пытаннях развіцця культуры. Гэта адзначыў, выступаючы ў Мінску, Б. С. Угараў. Што ж тады казаць пра грамадскія ініцыятывы? Пытаюся пра гэта ў вас, зважаючы на тое, што вы — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення фонду культуры.**

— Сапраўды, у нас у розны час прымалася шмат пастаноў (аб паляпшэнні матэрыяльнай базы ўстаноў культуры, аб развіцці народнага мастацтва, аб творчай моладзі), якія фактычна не выконваліся. Разам з тым, важданіна з пастановамі, указамі і інструкцыямі, якія часам супярэчаць адна адной, ратуе бюракрата ад адказнасці, дае магчымасць рабіць выгляд, што работа ідзе. Бюракратызуюцца, на жаль, не толькі дзяржаўныя ўстановы, але і грамадскія арганізацыі. Спашлюся на шырокую сетку таварыстваў аховы помнікаў гісторыі і культуры. Мне здаецца, што яны даўно ператварыліся ў таварыствы функцыянераў, і самы большы іх клопат — не далучэнне грамадскасці да праблем аховы помнікаў, а збор узносаў. Вось вам некалькі прыкладаў. У Мінскім гарадскім таварыстве аховы помнікаў — 8 штатных адзінак. Ну, а што яно робіць? Займаецца паперкамі, бо як можна далучаць грамадскасць да нейкай канкрэтнай работы, што магчыма толькі пасля заканчэння працоўнага дня, калі будынак на вуліцы Старажоўскай, 5, дзе знаходзіцца таварыства, бярэцца пад ахову з 18 гадзін? Узнікае думка: а ці не дубліруюць таварыствы аховы помнікаў гісторыі і культуры пэўныя аддзелы фонду культуры і ці не пара пераўтварыць гэтыя таварыствы ў падраздзелы ці секцыі фонду культуры, задача якіх — ахапіць праблемы культуры ў самым шырокім разуменні? Вось і паўстае пытанне — ці патрэбен такі дубляж? Тое ж можна сказаць і пра некаторыя іншыя добраахвотныя таварыствы і камітэты.

Не ўсё добра і ў Беларускім фондзе культуры. Нямала канфліктаў паміж апаратам праўлення фонду і грамадскімі камісіямі. Вядомыя навукоўцы, выдатныя спецыялісты, проста ініцыятыўныя людзі не надта імкнуцца да супрацоўніцтва з фондам, бо ім надакучылі размовы, за якімі мала канкрэтных спраў.

Мы ў Мінскім гарадскім аддзяленні фонду не хацелі б паўтараць чужыя памылкі. Мінскі гарадскі фонд культуры, створаны параўнальна нядаўна, шукае сваё месца ў культурным жыцці горада, свае формы і метады работы. Надаецца асаблівая ўвага адной з галоўных праграм «Моладзь і культура», накіраванай на развіццё нацыянальных і інтэрнацыянальных пачуццяў. Каб прыцягнуць маладыя сілы да рэстаўрацыі і аднаўлення помнікаў гісторыі і культуры, мы разам з гаркомам камсамола пачалі рух «Родны горад». Праведзены шэраг суботнікаў студэнцкай і рабочай моладзі ў Верхнім горадзе.

Важнае выхаваўчае значэнне, на нашу думку, мае адраджэнне і развіццё народных традыцыйных свят каляндарнага цыкла. Сумесна з упраўленнем культуры Мінгарвыканкома і з удзелам актывістаў і энтузіястаў — найперш студэнтаў — праведзены пад Новы год «Каляды», не так даўно — «Вяснянка», зараз рыхтуемся да «Купалля».

Арганізаваць такую імпрэзу — справа нялёгкая. Няма метадычных распрацовак, няма зборнікаў абрадавых песень. Але галоўная цяжкасць — далучэнне як мага больш людзей да ўдзелу ў такіх святах, прытым, каб не было на іх падзелу на артыстаў і гледачоў.

Цяпер мы разам з камсамольцамі і грамадскімі арганізацыямі, рознымі службамі горада, пры актыўным удзеле моладзі розных раёнаў Мінска праводзім суботнікі па добраўпарадкаванні ўрочышча Курапаты. Устаноўлены закладны валун і ўказальнікі, што абмяжоўваюць ахоўную зону масіва.

Гаворачы пра развіццё культуры карэннай нацыянальнасці Беларусі, нельга забываць і пра нацыянальныя меншасці. Пры гарадскім фондзе культуры створана Таварыства аматараў яўрэйскай культуры. Яно ўжо заявіла аб сабе шэрагам добра арганізаваных мерапрыемстваў. Чаму не мець свае аб'яднанні рускім, украінцам, цыганам? Што датычыць Палескага культурнага таварыства, дык, на маю думку, было б лагічна арганізоўваць яго не ў Мінску, а на Палессі — пры гомельскім ці брэсцкім аддзяленні фонду.

**— Нягледзячы на пэўныя зрухі ў галіне культуры, даводзіцца чуць, што пакуль мы не пайшлі тут далей касметычнага рамонту, што да грунтоўнай перабудовы далёка...**

— Калі стаўка па-ранейшаму будзе рабіцца на энтузіязм і добраахвотных ахвяраванні, мы ніколі не дасягнем культурнага (адпаведна — эканамічнага) узроўню развітых краін. Калі грамадства будзе шкадаваць грошы на культуру, бескультур'е паставіць дзяржаву на мяжу духоўнай катастрофы.

Сёння, пры мізэрнай увазе да выяўленчага мастацтва ў школе, мы не можам выявіць будучых мастакоў. Школьная ўраўнілаўка моцна ўдарыла па творчых асобах. Безумоўна, павінен быць пачатковы агульны для ўсіх курс, які абавязкова павінен уключаць і эстэтычнае выхаванне. Але потым няхай кожны будуе сябе сам: патрэбна дыферэнцыяванае навучанне ў адпаведнасці са здольнасцямі і інтарэсамі вучня. Сёння ў школе абсалютызаваны тэхнічны ўхіл. За вышэйшай матэматыкай мы забыліся пра гуманітарныя дысцыпліны, пра духоўнасць. На нядаўнім Першым усесаюзным з'ездзе работнікаў народнай адукацыі аўдыторыя вельмі непрыхільна, калі не сказаць, варожа сустракала тых, хто спрабаваў нешта гаварыць пра эстэтыку, пра выхаванне мастацтвам... Трывожны сімптом.

**— Ці хопіць для перабудовы мыслення адной толькі змены школьных праграм?**

— Не, гэта толькі пачатак адраджэння культуры, адраджэння нацыі. Патрэбна шырокая, усеабдымная праграма культурнага будаўніцтва. У часы сталіншчыны знішчалася нацыянальная інтэлігенцыя, народу адбівалі памяць, разбураўся духоўны патэнцыял; на руінах культуры ўтварыўся духоўны вакуум, у якім мы жывём сёння. Адарванасць ад гістарычных каранёў нарадзіла некрытычнае стаўленне да «масавай культуры», успрыманне вельмі сумніцельных каштоўнасцей як безумоўнай ісціны.

Думаю, не варта ўсур'ёз успрымаць дэмагагічныя сцвярджэнні, нібыта маскультура «служыць народу». Служыць народу — не значыць апускацца да ўзроўню масы. Мэтай мастацтва бачыцца мне выхаванне людзей на высокіх узорах. Нейкі дзікі парадокс атрымліваецца: на культуру ў звычайным і высокім значэнні гэтага слова грошай няма, а на «масавую» — калі ласка!

**— Вы лічыце, што мастацтва і камерцыя несумяшчальныя?**

— Ад мастацтва нельга патрабаваць прамой, а тым болей сіюмінутнай выгоды. Мастацтва захоўвае духоўнасць у грамадстве. Нездарма сталіншчына распачалася разбурэннем храмаў, а скончылася знішчэннем людзей, генацыдам. Пра гэта сведчаць шматлікія Курапаты. Гэта не толькі трагедыя фізічнага знішчэння, а ў першую чаргу—бяда духоўная і маральная, трагедыя культуры.

**— Васіль Пятровіч, вы былі вядучым у «Днях жальбы», што праходзілі ў лютым у Палацы Белсаўпрофа. Гэтым вы выказалі сваё стаўленне да сталіншчыны як грамадзянін. А у вас як мастака трагедыя Курапатаў знайшла водгук?**

— Тэму Курапатаў я разглядаю як працяг ці, калі зыходзіць з гістарычнай храналогіі, пачатак хатынскай тэмы. Хатыні я прысвяціў сюжэтныя аркушы, а тут хацеў бы пайсці іншым шляхам — адрадзіць вобразы загінуўшых у канкрэтных партрэтных выявах. Мяркую зрабіць партрэтную серыю ахвяр сталіншчыны. «Дні жальбы» павінны праводзіцца часцей. Бо гэта напамінак і папярэджанне.

**— Перагляд гісторыі, які распачаўся ў грамадскай свядомасці, спрыяе сацыяльнай актыўнасці моладзі. Ці адчуваецца гэта ў тэатральна-мастацкім інстытуце?**

— Я за сацыяльную актыўнасць пры ўмове імкнення да высокага прафесіяналізму. Як педагогу, мне б хацелася, каб актыўнасць выяўлялася найперш у канкрэтных справах. Для студэнта галоўная справа — вучоба, асабістая творчасць. Разам з тым, маладых трэба разумець, трэба паважаць іх погляды. Уздзейнічаць на моладзь можна толькі сваім аўтарытэтам (аўтарытэт жа трэба яшчэ заваяваць), а не адміністрацыйным прымусам. Я — за выхаванне праўдай. Трэба, каб разуменне жыцця, якое мы ўнушаем маладому пакаленню, не разыходзілася з рэальным жыццём. А моладзь вельмі чуйная на праўду і на ману рэагуе адпаведна.

**— Сітуацыя ў галіне эстэтычнага выхавання, на вашу думку, сапраўды крызісная?**

— Можа, «крызіс» у дадзеным выпадку слова занадта моцнае, але сітуацыя сапраўды цяжкая.

У школе мала гадзін на мастацкае выхаванне, малая зарплата ў настаўнікаў, сярод іх шмат людзей выпадковых. Не хапае спецыялізаваных школ і студый у сталіцы рэспублікі, а што ўжо казаць пра іншыя гарады і мястэчкі. Тая ж сітуацыя і ў сярэднім звяне мастацкай адукацыі. На ўсю рэспубліку — адна школа-інтэрнат імя Ахрэмчыка і Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава. Фактычна няма сувязі школа—вучылішча—інстытут. Паўсюль праблема — гіпсавыя злепкі, вучэбны матэрыял па анатоміі, вучэбна-метадычная літаратура, пэндзлі, фарбы, папера. Без баяна не навучышся іграць, без пэндзля не навучышся маляваць.

Дзяржплан павялічыў нам набор па шэрагу спецыяльнасцей — а вучэбныя плошчы засталіся тыя ж. Праўда, Белдзяржпраект распачаў праектаванне комплексу будынкаў для мастацкай ВНУ. Мы хацелі б, каб гэта ВНУ насіла назву Беларуская акадэмія мастацтваў. Думаецца, што акадэмія павінна стаць не толькі вучэбным, але і культурным цэнтрам з музеем і выставачнымі заламі. Аглядаючыся назад, мы бачым, што пры ўзвядзенні будынкаў культурнага прызначэння нормай становіцца так званы даўгабуд. Добра было б гэтую заганную традыцыю парушыць. Але гэта немагчыма без шчырай зацікаўленасці партыйных і савецкіх органаў у развіцці нацыянальнай культуры, у падрыхтоўцы высокапрафесійных мастацкіх кадраў для яе... А пакуль што мы змушаны прыстасоўвацца да існуючых абставін, працаваць у тых умовах, якія маем.

Прынята канчаць размову на аптымістычнай ноце. Ды ў нас болей падстаў для заклапочанасці. У нас — гэта не толькі ў мастакоў, але ва ўсяго грамадства.

Гутарыў
**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

Калі чытач памятае, у ліку кітайскіх пісьменнікаў, якія наведалі Беларусь у верасні мінулага года, быў паэт і празаік, галоўны рэдактар Гуандунскага часопіса «Хуачэн» («Кветка») Лі Шыфэй. Усім гасцям спадабалася Беларусь, асабліва ўражвала яна Лі Шыфэя. Маўклівы, засяроджаны ў сабе (амаль не прымаў удзелу ў размовах), ён часам нешта узрушана шаптаў ды яшчэ рабіў крадком запісы. Прызнаюся, што як нідзе адчувае сябе ў нас паэтам, што занатоўвае новыя задумы, звязаныя з беларускімі ўражаннямі... Светла прыгадваецца сцэна развітання на мінскім вакзале. «Вы не проста сябры, вы — нашы браты», — сказаў старэйшына дэлегацыі шанхайскі празаік-раманіст У Цян. «Мы вам вельмі ўдзячныя за гасціннасць, — працягваў пекінскі эсэіст і крытык У Тайчан. — Калі што спатрэбіцца, можа, трэба будзе якое лякарства, — пішыце, абавязкова прышлём». Загаварыў і маўчун Лі Шыфэй, паэт, празаік і рэдактар з Гуандуна. «Разам з удзячнасцю вязу ў душы боль за вашу Хатынь, за ўсё, перажытае вамі, — ціха казаў ён. — Напішу паэму пра Хатынь і прышлю вам».

А неўзабаве пазваніла з Масквы перакладчыца з кітайскай В. Машкіна, якая суправаджала дэлегацыю (з нашай Гомельшчыны родам, дарэчы), і паведаміла, што атрымала ад Лі Шыфэя паэму «Хатынь», гатова зрабіць падрадкоўны пераклад і выслаць яго нам. Так мы і дамовіліся.

Прапаную ўвазе чытача паэму ў сваім перакладзе. Але папярэдне некалькі неабходных заўваг — ад сябе і аўтара падрадкоўніка. Лі Шыфэй назваў твор паэтычным рэпартажам (так у арыгінале). Але гэта хутчэй за ўсё лірыка-публіцыстычная паэма. Не было ў арыгінале знакаў прыпынку, апрача шматкроп'я. У апошняй, «кітайскай», частцы паэмы называюцца паўзабытыя ўжо намі «хунвэйбіны» і «цзаофані». Нагадаем, што гэта панцыі, звязаныя з так званай «культурнай рэвалюцыяй». Што датычыцца «5 чырвоных» і «5 чорных», то аналагам іх з'яўляюцца нашыя «7 пар чыстых» і «7 пар нячыстых» праз прызму 1937 года. Маоцзэдунаўская ўстаноўка «Ставіць у аснову асноў класавую барацьбу» капіравала, па сутнасці, сумна вядомую сталінскую формулу.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**



Лі ШЫФЭЙ у Хатыні.

**Лі ШЫФЭЙ**

# ХАТЫНЬ

## Месца, дзе мы ўсе пераасэнсоўваем сваю гісторыю

### 1

То лес, то луг,
То луг, то лес.
Вось яны, перад маімі вачыма.
Няма толькі вёсачкі,
Якая таксама некалі тут была,
Няма толькі перад маімі вачыма
Вёсачкі з назваю Хатынь.
Няма той невялічкай вёсачкі,
У якой было ўсяго 26 двароў,
У якой было ўсяго 26 дамоў.
Невялічкая вёсачка —
Ды вялікая бяда.
Было ў той вёсачцы 26 двароў.
А потым былі агонь і кроў.
Ворагі былі горш за звяроў.
Знікла вёсачка. Ні людзей, ні двароў.
Знішчана вёсачка.
Але засталіся няскоранымі душы.
Паглядзі на гэтага старога,
Што трымае на руках мёртвага хлопчыка.
Позірк старога поўны гора і суровай непакоры.
Кулачкі хлопчыка сціснуты моцна-моцна.
Стары з дзіцём сталі манументам.
Стары з дзіцём сталі абвінавачаннем.
Абвінавачаннем маўклівым, але грозным.
Яно адрасавана сэрцам людзей.
Яно адрасавана людскому сумленню...
Прайшлі дзесяцігоддзі,
А тая вайна,
Тыя жахлівыя падзеі
Раздзіраюць нашу памяць,
Бударажаць нашу думку.
Нам усё не дае спакою
Гэтае вось пытанне:
«Чаму вялікі правадыр,
Які нікому не давяраў,
Які падазраваў усіх і ўся,
Так лёгка, так легкаверна
Аднёсся да запэўніванняў Гітлера?
Чаму заставаўся глухім
Да ўсіх папярэджанняў аб небяспецы?
Аж да самай раніцы 22 чэрвеня 41 года? —
Калі раптоўна напаў вораг,
І пралілася на світанку чырвонаармейская кроў,
І застагнала, першай прыняўшы на сябе удар,
Беларуская зямля —
Пад выбухамі бомбаў,
Пад гусеніцамі танкаў...»

### 2

У вёсцы было 26 двароў.
А потым былі агонь і кроў.
Агонь і кроў, агонь і кроў.
Алёша — 15 гадоў,
Косця — 5 гадоў,
Міша — 2 гады.
Мішу было ўсяго два гады.
І цяпер яму два гады —
Як і тады.
Не раслі тут дзеці,
Дочкі і сыны.
Выраслі замест іх
Слупы-каміны...
Мне выразна ўявіліся
Тыя дворыкі, тыя хаткі.
Пад іх стрэхамі варылася ежа,
Пад іх стрэхамі квітнелі любоў ды ласка,
Пад іх стрэхамі падрасталі дзеці.
Сёння ж, замест звонкіх дзіцячых галасоў,
Гучаць вось гэтыя трывожныя званы-званочкі.
Звоняць-перасцерагаюць:
Помніце!
Помніце!
Помніце!

### 3

У глыбіні асенняга лесу,
У пісьменніцкім Доме творчасці
З такой прыгожай, з такой беларускай назвай — «Іслач»
Беларускія паэты давалі ў наш гонар абед.
Былі вясёлыя позіркі,
Былі смех і жарты.
Але варта было загаварыць пра вайну,
Як у нашых гаспадароў пахмурнелі твары,
Як сталі суровымі і стрыманымі іх словы.
Мне здалося: я іх зразумеў.
І яшчэ я падумаў:
«Вёска Хатынь
Магла б таксама нарадзіць сваіх паэтаў.
Гэтыя 15-гадовы Алёша,
5-гадовы Косця,
2-гадовы Міша...
Дажыві яны да сённяшняга дня,
Яны, магчыма, таксама былі б знакамітымі паэтамі.
А, можа, былі б касманаўтамі,
Накшталт іх славутых землякоў
Клімука і Каваленка.
Маглі б быць настаўнікамі
І вучылі б дзяцей
У сваёй зялёнай, у сваёй ціхай вёсачцы Хатынь.
Ці, можа, былі б, як і іх бацькі і дзяды,
Сялянамі, земляробамі,
І сёння выбіралі б у полі бульбу,
Купаючыся ў промнях верасьнёвага сонца.
Былі б жывыя яны —
Была б жывая Хатынь,
Часцінка зямлі беларускай,
Адвечнай, шматпакутнай...»
Я слухаў беларускіх паэтаў
І раптам зразумеў,
Чаму ў іх,
Яшчэ не старых людзей,
Так многа маршчын
І чаму гэтыя маршчыны
Такія глыбокія.

### 4

Сотні і тысячы людзей
З розных куткоў свету
Прыязджаюць у Хатынь.
Каб пакласці кветкі.
Каб пастаяць у журботным маўчанні.
Каб задумацца,
Падумаць каб над пытаннем:
«Што ж усё-ткі адбылося?
І чаму адбылося гэта?»
Сапраўды, чаму краіна,
Якая дала свету Гётэ і Шылера,
Гегеля і Маркса,
Раптам парадзіла жывёліну,
Імя якой — Гітлер,
Выпусціла ў свет пачвару,
Назва якой — фашызм?..
Людзі едуць у Хатынь.

---

**У апошнія гады прыкметна ажывіліся савецка-кітайскія культурныя сувязі. У прыватнасці, пра гэта сведчаць паездкі нашых літаратараў у КНР, а таксама наведванне СССР, у тым ліку і Беларусі, кітайскімі пісьменнікамі. Прапануем вашай увазе мініяцюры сучасных кітайскіх празаікаў, якія даслаў на імя Янкі Брыля выкладчык Хэйхунцзянскага універсітэта (г. Харбін), «аматар і перакладчык савецкай літаратуры ў Кітаі» Ван Юйлунь. Ён таксама паведаміў, што рыхтуе анталогію савецкай мініяцюры, куды будуць уключаны і творы Янкі Брыля.**

**Хуан ПУШЫН**

## *Адно стомленае сэрца*

1. Я заўсёды глядзеў на цябе, калі ты ішла мне насустрач або адыходзіла ад мяне.

Магчыма, я заўсёды імкнуўся да цябе толькі таму, што меў магчымасць глядзець на твой сілуэт.

2. За ўсімі не да канца зачыненымі дзвярыма сапраўднае жыццё чалавека.

Не трымай жыццё на замку, калі ты хочаш пачаць свой шлях, імкнешся да сваёй мэты.

3. Ухіленне — павучыная сетка.

Як бы яна добра ні была сплецена, усё роўна залежыць ад вугалкоў...

4. Зорка, я цябе доўга-доўга любіў і не ведаў за што...

Потым я зразумеў, што ты належыш усім вачам. І я астыў да цябе.

Але неўзабаве здагадаўся, што ніхто не здольны авалодаць табою, і таму зноўку пачаў мроіць сустрэчай.

Зорка, ты цудоўная, бо заўсёды належыш сама сабе.

5. Я — птушка, што збілася з выраю, але не развучылася махаць крыламі.

Я — падарожнік, які заблудзіўся, але нават стомлены імкнецца наперад.

6. Я веру, што з маім нараджэннем нарадзіўся і новы свет. Мы з ім заўсёды будзем сябрамі, ніколі не станем варагамі.

7. Не ведаю: мора прывязана да берага ці бераг прывязаны да мора?

Падводны камень гаворыць: каханне гарачае...

Водмель шэпча: каханне пяшчотнае...

8. Няўжо сапраўды зіма жорсткая?

А можа, яна строгая дзеля таго, каб прыбраць гэты свет, запаскуджаны гразёю?

Свет немагчымы без зімы.

9. Калі рвецца струна, то раздаецца адчайны крык. Яна не хоча паміраць маўкліва...

10. Прыгажосць — скупая, пачварнасць — шчодрая.

11. Калі ракавіна памірае, хваля нясе яе на водмель. І там ракавіна блішчыць, пакуль не заўважаць, не ацэняць яе прыгажосць.

12. Толькі злоснае, штармавое мора стварае чыстую, празрыстую, мяккую водмель. На беразе спакойнага возера — ціна і гразюка.

13. Адна птушка ляціць сярод аблокаў — да яе прыкаваны шматлікія людскія позіркі.

Адзін матылёк танцуе над травою — яго ніхто не заўважае.

У гэтае імгненне я радуюся за птушку і маркочуся з-за матылька.

Потым паляўнічы ўскідвае стрэльбу і раздаецца стрэл... Цяпер я радуюся за матылька і плачу з-за птушкі.

14. Эпіфілюм вострапялёсткавы ў адно імгненне хавае свае пялёсткі.

Жыццё хараства дзеля таго кароткае, каб мы часцей яго ўспаміналі, імкнуліся да яго...

15. Зямлі не даспадобы кроў. Там, дзе яна пралілася, уміг паднімаецца трава.

А потым, калі памяць развейваецца, як туман, на зялёным дыване спакусліва ўспыхваюць чырвоныя кветкі.

16. Язык — заўсёды кульгавы пасланец.

Маўчанне — верны служка.

17. Калісьці я заблудзіўся ў глухім лесе.

Свет існаваў, а маё сэрца зайшлося ад болю і жаху.

Навокал ляжалі дарогі, але яны былі завалены маімі сумненнямі.

**Ту АНЬ**

## *Зрэнкі*

У дзяцінстве я любіў глядзець проста ў зрэнкі маме; там я бачыў хлапчукоўскі твар — мой твар.

У маладосці мне падабалася глядзець у зрэнкі каханай; у іх я бачыў малады твар — мой твар.

Хлапчук у матуліных зрэнках часта смяецца — смяецца вельмі недарэчна.

І сярод іх немцы,
Сярод іх японцы.
Гід нам расказваў,
Што японцы рэагуюць вельмі востра,
Што яны ўсклікаюць:
«Якое злачынства! Якое страшнае злачынства!»
Можа, таму, што ведаюць,
Якія зверствы чынілі японскія акупанты ў Кітаі.
Колькі тысяч кітайцаў
Зарылі яны жыўцом у зямлю!
У адным толькі Нанькіне было загублена
300 тысяч нявінных душ...
Фашысты-акупанты тут,
Такія ж агрэсары-акупанты там.
А крывавы меч мае, як вядома, два канцы.
Незлічоныя тыя бядоты,
Якія прынесла вайна і самім японцам.
Болем і трывогай адгукаюцца ў нашых сэрцах
Трагедыі Хірасімы і Нагасакі...

5

Хатынь...
Гэты непаўторны мемарыял
(Другога такога няма ў свеце)
Выклікае адначасова нянавісць і спагаду,
Боль і глыбокі роздум.
Немцы і японцы
(А сёння — і мы, кітайцы)
Прыходзяць сюды,
Каб знайсці адказ на пытанне:
«Што ж усё-ткі адбылося?
Што гэта такое — фашызм?»
Занадта многа прыйшлося
Заплаціць чалавецтву за фашысцкія хімеры,
Каб не шукаць адказ на гэтае пытанне,
Каб пільна не трымаць пад мікраскопам
Бацылу фашызму.
Тыя эсэсаўцы,
Якія знішчалі Хатынь,
І гестапаўцы,
Якія вешалі жыхароў Мінска,
І японскія каты,
Якія спаборнічалі ў забойстве кітайцаў,
Усе ж яны былі калісьці
Нявіннымі немаўляткамі,
Бяскрыўднымі дзіцяткамі.
Гэта мікроб фашызму
Атруціў потым іх душы,
Пазбавіў іх усяго чалавечага,
Ператварыў іх у забойцаў,
Што не знаюць ні літасці, ні жалю.
І потым — фашысты не толькі тыя,
Хто носіць уніформу,
Хто гаворыць пэўныя словы.
Таму вельмі важна
Распазнаваць фашызм нават тады,
Калі ён мяняе свой вонкавы выгляд.

6

Хатынь...
Немцы і японцы
Прыходзяць сюды,
Каб лепш зразумець і пераасэнсаваць
Сваю гісторыю.
І я, кітаец, прыйшоў сюды,
Каб задумацца над сваёй гісторыяй...
Я ніколі не забуду
Гэту дзеўчыну-хунвэйбінку.
Люты 1967 года.
У цягніку, які ішоў з Гуанчжоу на поўнач,
Яна сядзела насупраць мяне.
Просты, звычайны тварык.
Два тоненькія рожкі-коскі.
Яна спяшалася выказаць сваім спадарожнікам тое,
Што яе перапалохала.
Яна ўспаміналa-расказвала:
«Гэта ўсё было, як у кашмарным сне.
Учарашнія сябры-аднакласнікі
Раптам сталі ворагамі,
Падзяліліся на «5 чырвоных»
і «5 чорных»,
На выхадцаў з «добрых элементаў»
І з «элементаў дрэнных».
І мы, «чырвоныя», былі пераканаy,
Што толькі мы — людзі,
А ўсе астатнія — нелюдзі,
І што мы можам не цырымоніцца
У выбары сродкаў у дачыненні да «чорных».
Калі я ўпершыню біла чалавека,
У мяне дрыжэлі рукі
І трывожна білася сэрца.
Але чым больш я ўдзельнічала
У збіваннях (а то і забіваннях),
Тым больш жорсткай рабілася душа.
У рэшце рэшт я так аднойчы распалілася,
Што збіла амаль да смерці
Сваю лепшую сяброўку.
Яна качалася, ламантуючы, па зямлі,
А я біла яе да тых пор,
Пакуль не парвалася папруга...»

Прайшло шмат гадоў,
Дакладней — 21 год,
А вобраз той дзяўчыны-хунвэйбінкі
Стаіць у мяне перад вачамі.
Як мы ведаем, лёс хунвэйбінаў быў таксама трагічны.
Іх потым, у сваю чаргу, білі цзаофані («бунтары»).
Але ніхто не стане адмаўляць,
Што калі тая дзяўчына
Сцябала да смерці сваю сяброўку,
То тут не абыходзілася без бацылы фашызму.
Спажыўнае асяроддзе гэтых бацыл —
Тэорыя перавагі некага над некім.
Тагачасная нянавісць
«5 чырвоных» да «5 чорных» —
Радня нянавісці эсэсаўцаў да яўрэяў,
Арыйцаў да людзей іншай расы
(«Ніжэйшай», вядома).
Недарэмна ж потым у рэзалюцыі з'езда КПК
Было чорным па белым запісана:
«Культурная рэвалюцыя
Перарасла ў фашысцкую дыктатуру»...

7

Пасля таго, як я вярнуўся дамоў,
Я цэлы тыдзень не знаў спакою,
Я цэлы тыдзень, днём і ноччу,
Пісаў пра Хатынь.
Спаленая вёска стаяла перад маімі вачыма...
І калі я скончыў паэму,
У мяне было такое адчуванне,
Што я выканаў вельмі важны абавязак,
Што я выказаў шчырае пачуццё грамадзяніна Кітая.
Мне ўяўляецца, што гэтыя мае радкі
Складуць вянок, які ляжа за 10 тысяч лі
Ад маёй Радзімы
Побач з іншымі вянкамі і кветкамі,
Прынесенымі у Хатынь...

1988 г.
Мінск—Пекін—Гуандун.

Хлопец у зрэнках каханай — таксама часта і недарэчна смяяўся.

Цяпер я хацеў бы яшчэ раз паглядзець у вочы матулі, але яе ўжо няма сярод жывых.

Цяпер я хацеў бы яшчэ раз зірнуць проста ў зрэнкі каханай, але яна ўжо бабуля.

Я імкнуся шырока расплюшчанымі вачыма глядзець на жонку, але не бачу ў яе вачах свой твар — напэўна, я таксама аслеп ад старасці.

Раптам мне хтосьці шэпча: навошта расплюшчваць вочы? Наадварот — заплюшчы іх!

Я паслухмяны, як у дзяцінстве.

І адразу бачу матуліны зрэнкі, а ў іх усмешлівы хлапчукоўскі твар — мой твар.

І адразу бачу зрэнкі каханай — там таксама мой радасны малады твар.

Я бачу: зрэнкі матулі ўсміхаюцца мне, усміхаюцца ласкава, з любоўю да мяне.

Я бачу: зрэнкі каханай жонкі зноўку чаруюць, вабяць мяне прыгажосцю.

І я, як калісьці, засмяяўся голасна і недарэчна.

**Лю ЦЗЭЙФУ**

## *Туга вялікай ракі*

Вялікую раку папракаюць за яе мутную кроў, за тое, што яна ганарыстая і нікому непадуладная, ніяк не ўтаймуе свой дзікі нораў, паскудзіць берагі, не ведае чысціні крынічнай вады.

Вялікую раку адольвае глыбокая туга. Яна марыць ператварыцца ў празрысты і чысты раўчук, хоча супакоіцца, спыніць гэты нястомны і бясконцы рух, каб зрабіцца ясным і светлым люстрам, куды маглі б глядзецца задаволеныя падарожнікі.

І ў той жа час яна супраціўляецца сваім марам.

Бо яна, рака, упарта любіць свой нястомны неспакой, любіць сваё нястрымнае імкненне да мора, вечную барацьбу з горамі і далінамі. Яна нават любіць сваю мутную ваду, у якой б'ецца пульс Аленінай ракі.

Рака ведае, што яе вада забруджвае берагі, але гэтая самая вада шчодра поіць рысавыя палі.

Яна ведае, што імклівы рух наперад не магчымы без пагрозлівых крыкаў, бо ціхая адна толькі смерць. Яна ведае, што імклівая плынь не бывае без пяску і граэі, бо толькі адна смерць чыстая і бледная.

Вялікая рака сніць глыбокую тугу. Але яна не будзе доўга сумаваць, што толькі нястомная імклівая плынь дае сілы для бегу праз горы і даліны, нараджае заўтрашнюю бязмежную прастору...

З кітайскай.

*Да Міжнароднага дня музеяў*

# НА ПАКЛОН ДА ПЕСНЯРА

Амаль у цэнтры Мінска, побач з шумнай плынню Ленінскага праспекта, ашчадна прыхаваны ад пылу і тлуму вялікага горада будынкамі Акадэміі навук, знаходзіцца запаведны куточак беларускай сталіцы. Пад зямлёй грукоча метро, навокал спяшаюцца людзі і машыны. А тут шумяць сосны і цвіце язмін, чуюцца птушыныя галасы, цешаць людское вока непаседы вавёркі.

«Мы мелі шчасце бываць у гэтым доме яшчэ пры жыцці яго гаспадара, — пішуць у кнізе водгукаў Літаратурнага музея Якуба Коласа адны з першых наведвальнікаў Янка Брыль і Анатоль Вялюгін. — Цяпер у Доме-музеі нельга без глыбокага хвалявання думаць пра незабыўнага дзядзьку Якуба. Ён заўсёды з намі, але тут светлая памяць яго напаўняецца асаблівым зместам...»

Было гэта вясной 1949 года. Група маладых пісьменнікаў — Антон Бялевіч, Кастусь Кірэенка, Іван Мележ, Янка Брыль, Аляксей Русецкі, Анатоль Вялюгін, Мікола Аўрамчык, Іван Грамовіч, Іван Шамякін — наведала Якуба Коласа. На ўспамін сфатаграфаваліся. Фотаздымак зараз экспануецца ў музеі.

«Прызнаюся шчыра, што спачатку я адчуваў некаторае расчараванне ад сустрэчы, — піша І. Шамякін. — Праходзіць паўгадзіны — размова пра жыта, яблыкі, спёку, засуху; мінае гадзіна — Якуб Колас расказвае пра тое, што ён бачыў у вёсцы, куды два дні назад наведаўся, як там жывуць людзі, што яны гавораць, пра што думаюць...

Пад канец сустрэчы мне не хацелася ўжо размовы на спецыяльна літаратурныя тэмы. Я зразумеў: усё, што было сказана за час сустрэчы, не было выпадковасцю. Проста, без надакучлівых павучэнняў Якуб Колас вучыў нас самаму галоўнаму: як пісьменнік павінен ставіцца да жыцця, да людзей».

Цеплынёй і клопатам атуляў пясняр кожнага. Коласу пісалі, да яго ішлі. Прасілі дапамогі ці проста гутарылі, як з мудрым, сардэчным чалавекам.

Дом народнага паэта і цяпер, набыўшы годнасць музея, гасцінна сустракае людзей. Праходзячы з аднаго пакоя ў другі, яны ўважна аглядаюць матэрыялы, якія раскрываюць слаўны шлях вялікага сына зямлі беларускай, з хваляваннем разгортваюць кнігу водгукаў.

«З вялікай цікавасцю агледзеў гэты незвычайны музей — доказ неўміручага жыцця Якуба Коласа. З любоўю, глыбокім веданнем жыцця і духу выдатнага паэта пабудавана экспазіцыя, а мемарыяльны кабінет і спальня выклікаюць такое адчуванне, што паэт увойдзе зараз сюды сам. Ад'язджаю ў Маскву, а ў вачах і ў сэрцы назаўсёды застанецца домік, дзе жыў Якуб Колас і дзе лунае яго неўміручы дух.
Іраклій Андроннікаў».

«Дарагі Колас! Я не бачыў цябе ніколі пры жыцці, але ты запаліў ва мне агеньчык хараства, і вечнае табе за гэта дзякуй! Дзякуй табе за маё кніжнае дзяцінства і за твой народны і вельмі чалавечны талент.
Васіль Быкаў».

«У гэтай мудрай цішыні слухаў Якуба Коласа. Не знаходзіш слоў, каб што-небудзь сказаць.
Аляксей Пысін».

«Як член балгарскай культурнай дэлегацыі і як балгарскі пісьменнік, я наведаў дом-музей вялікага беларускага паэта Якуба Коласа. Наш народ яго любіць, мы даўно ўжо яго перакладаем. Слава буйнейшаму пісьменніку братняй Беларусі!
Ангел Тодараў».

«Вельмі спадабаўся музей, — прызнаецца Аляксандр Пухаеў. — Пастараюся перакласці вершы любімага паэта беларускага народа на сваю асяцінскую мову».

«Пабываўшы ў музеі, больш яскрава адчуваеш сувязь з роднай зямлёю, з яе працавітым народам, — заўважаюць рабочыя ВА «Інтэграл» г. Мінска. — Такой прыгожай падалася нам родная мова! Як жа трэба шанаваць, захоўваць, узбагачаць яе, каб яна гучала і па-за сценамі музея!»

Запісы ў кнізе водгукаў... Наведвальнікі музея выказваюць ўдзячнасць за тое, што адкрылі яшчэ адзін свет—свет Якуба Коласа, пісьменніка, грамадзяніна, чалавека.

Іван КУРБЕКА.

# На рахунак № 141713

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы будуе ў Гайнаўцы. на Беласточчыне, Музей беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху, або проста — Беларускі музей. БГКТ ужо пачало збор экспанатаў і дакументаў для музея, першая невялікая экспазіцыя якога павінна адкрыцца сёлета ўвосень. Справа гэта датычыць не толькі беларускай меншасці ў ПНР, але і ўсіх нас, дзе б мы ні жылі, бо музей гэты можа стаць не толькі рэгіянальным, а і агульнанацыянальным асяродкам гісторыі і культуры.

Беларускае таварыства «Радзіма» выступіла ініцыятарам збору добраахвотных ахвяраванняў у фонд будаўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы. З гэтай мэтай у Рэспубліканскім жылсацбанку адкрыты рахунак № 141713.

У фонд дапамогі будаўніцтву музея ўжо даўно ідуць ахвяраванні з усіх куткоў, дзе толькі ёсць беларусы. Свой значны ўклад зрабілі нашы замежныя суайчыннікі з Канады, ЗША, Аўстраліі, краін Еўропы. Паасобныя ўзносы паступаюць на адрас Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку і з нашай рэспублікі. Але дагэтуль яны былі выпадковымі і разрозненымі.

Цяпер уся грашовая дапамога з Беларусі, спадзяёмся, будзе канцэнтравацца на рахунку № 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку. Ахвяраванні на яго могуць пералічваць як прадпрыемствы, арганізацыі, установы, так і паасобныя грамадзяне. Карацей кажучы, кожны, хто адчувае патрэбу зрабіць патрыятычны ўчынак і дапамагчы беларусам у Польшчы здзейсніць іх вялікую задуму.

М. ВАСІЛЕНАК,
першы намеснік старшыні
Беларускага таварыства
«Радзіма».

# ЗАСЛАЎСКІЯ ЧЫТАННІ

Зусім невыпадкова і сімвалічна, што месцам правядзення першых чытанняў Беларускага навукова-гуманітарнага таварыства, якое ўтварылася летась у Мінску пры Дзяржмузеі БССР, было абрана менавіта Заслаўе, адзін з буйнейшых культурных цэнтраў старажытнай Беларусі.

Беларускае навукова-гуманітарнае таварыства аб'ядноўвае сёння каля 50 маладых навукоўцаў з нашай рэспублікі і з-за яе межаў. На працягу двух дзён, 13—14 мая, удзельнікі і госці чытанняў мелі магчымасць абмеркаваць шэраг праблем сённяшняга дня Беларусі і яе мінуўшчыны. Перад маладымі навукоўцамі выступалі дактары гістарычных навук Г. Штыхаў і А. Грыцкевіч, доктар філалагічных навук Г. Цыхун, гісторыкі М. Ермаловіч і Ю. Заяц, дырэктар Дзяржаўнага гісторыка-культурнага запаведніка «Заслаўе» А. Калбаска. У паведамленнях сяброў таварыства закраналася шырокае кола пытанняў з гісторыі філасофіі, літаратуразнаўства, моваэнаўства, эканомікі і культуралогіі.

Значную дапамогу ў арганізацыі і правядзенні чытанняў аказалі таварыству аддзел культуры ЦК ЛКСМБ, Дзяржаўны гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе». Добры пачатак падараваў спадзяванні, што «заслаўскія чытанні» стануць традыцыйнымі.

К. КАМОЦКАЯ.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, старшыні Беларускага фонду культуры Івану Гаўрылавічу Чыгрынаву з прычыны напаткаўшага яго гора— смерці бацькі.

# *Музам на пацеху*

**Казімір КАМЕЙША**

## Абруч

Як стары лячылі Цэбар —
Пацякла з яго вада,
Голас свой на свет на цэлы
І Абруч стары падаў:

— Без мяне... Ды што,
ды што там,
Што вы можаце яшчэ. —
Цэбар вылечылі потым,
Цэбар болей не цячэ.

Клёпкі бралі нетаропка,
Пару ўціснуліануч.
...Калі ўсе на месцы клёпкі,
Нешта значыць і абруч.

## Флюгер

Ён па ветры нос трымаў,
Носам ветру падпяваў.
Ды мяняліся вятры
Раз на дзень,
І два,
І тры.

І мяняўся, значыць, нос.
Нос цяжкую службу нёс.
Мукі ўсе ён пераносіў —
Моцным быў у пераноссі.

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Загадана шанаваць не здольных і таленавітых, а здольных таленавіта выконваць загады.

●

«Наперад!» — заклікаў ён звыкла. «Наперад!» — рушылі слухачы. «Куды вы, — здзівіўся прамоўца, — я ж паказваў не ў той бок!».

●

— Пашкадаваў? — Так. Шкада, сказаў, патроны скончыліся.

●

Няпраўда, што ў дурняў няма ворагаў. Дурняў люта ненавідзяць дурнейшыя за іх.

●

Слова трэба трымаць у руках, як птушку: не так моцна, каб задушыць, і не так слаба, каб выпусціць.

●

Усе людзі іншаземцы. Амаль паўсюль. (З турыстычнага даведніка).

**Станіслаў ЕЖЫ ЛЕЦ**

## З «НЕПРЫЧАСАНЫХ ДУМАК»

«Я самы прыгожы, самы дужы, самы разумны. І да ўсяго гэтага дайшоў я сам».

●

«Я паэт заўтрашняга дня!» — «Што ж, прыходзьце заўтра».

●

Цяжка жыць. Нават глупства — і тое трэба зрабіць.

●

Спачатку было Слова. А скончылася ўсё Фразай.

Пераклаў з польскай В. ТРАВЕНЬ.

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

## КРЫВАЯ... МАТЭМАТЫКА

Колькі будзе
тры на пяць?
Цяжка памыліцца.
Я ж даўмеўся акругляць:
Не пятнаццаць —
Трыццаць.

Я сумленне не цугляў:
Мне было не сорам,
Калі часам акругляў
І вышэй —
На сорак!

Не заплюшчваў я вачэй
На такое «ўменне»,
Бо дзяліць было лягчэй —
Чулася кішэні.

Ведаў добра, што раблю,
Быў я «спец»,
Не лапаць.
Ведаў:
Болей акруглю —
Болей можна ўхапаць!

З матэматыкай сваяк
Я найблізкі, можа,
Ды ці ж я адзін
Вось так
І дзяліў,
І множыў?

Хоць чакаў,
Не збыўся цуд:
Па маім парадку
Акругліў мне тэрмін суд —
Даў усю дзесятку!

**Георгій ЮРЧАНКА**

## ПЕВЕНЬ З ВАЛОШКАМІ

Паводле Зіновія Прыгодзіча

Ці чулі вы што-небудзь прыгажэйшае, чым пеўнева кукарэку? Ці то чыста-крыштальнае, ці хрыплае і неразборлівае, ці нават разбойніцкае на разламаным плятні або гучна-пераможнае з вільчыка альтанкі.

Бягуць нашы дні, імчаць ночы, ляціць у неабдымным Сусвеце зямля, свецяць зоры, раз за разам дае кругаля месяц, а певень спявае і спявае. Не зважаючы, ці чуем мы яго, ці прыслухоўваемся да трапяткіх, заклікальна-пераможных рулад.

Кветка на яблыні дае яблык, вясна пераходзіць у лета, няўклюднае дзяўчо вылцярэбліваецца ў чароўную дзяўчыну. А певень кукарэкае ў вызначаны яму прыродаю час.

На адзіноце пад ягонае пяянне ўспамінаюцца крынічна-ізумрудныя з гарэзлівымі іскрынкамі вочы, сакаўныя, даверлівыя вусны, задуменна-таямнічы пагляд, сцішаны, поўны затоенага чакання стан, спапяляльны агонь раскаяння.

Не мае ні межаў, ні граніц каханне пеўня. Яго шчасце — вялікая сям'я шчырых, адданых нясушак. Куры нясуць яйкі. Праз пэўны час надыходзіць момант адмаўлення, і з яйка вылупліваецца піскляне, якое пасля зробіцца пеўнем. Ці курыцай. Бо адмаўленне старога — непахісны закон прыроды. Адмаўленне і пераемнасць.

Хто да канца спасцігне кукарэку? Чуйнаму сэрцу нясе яно асалоду, радаснае адчуванне блізкага шчасця, трапяткую надзею, абуджае пахі раллі, прэлай саломы і нечага яшчэ, незнаёмага, але хвалюючага. Гэты спеў натхняе на вялікія здзяйсненні, навявае то вусцішную ўзнёсласць, то цнатліва-сцішаны спакой, то пяшчотнае трымценне душы.

У ім чысціня і непасрэднасць тысячагоддзяў. Бо і тысячу год назад яго далёкі продак выводзіў гэтаксама кукарэку, і, можа, які дружыннік усяслаўнага князя ў захапленні слухаў спеў, плануючы далёкае і радаснае паляванне на даўганогую сарматку.

Прыемна пачуць гэты спеў у дарозе, у светлым хораме прыроды.

Варта бачыць певуна ў штодзённых жыццёвых клопатах. За бягучымі будзённымі справамі не забывае ён працэсу выхавання. Свае ідэйна-выхаваўчыя функцыі выконвае не толькі шляхам спеваў, але і знешнім выглядам — малайцаватай выправай ды ўрачыста-святочнай апраткай. Ніколі не дапускае ён у сваёй сям'і беспарадку, уважліва сочыць за паводзінамі кожнай сяброўкі. Клопаты яго, здаецца, не маюць межаў. Пры наймалейшай небяспецы падае сігнал трывогі. А сам гатовы счапіцца з самым небяспечным ворагам, кінуцца ў крывавую бойку за чэсць любой нясушкі.

Любіць радаваць сваіх хахлатак кветкамі. Кіруючыся з імі ў ячмень, абавязкова вядзе іх уздоўж дарогі, дзе прыгожа красуюць валошкі.

Дык дзякуй табе за ўсё, неўміручы пяюн з тваім незабыўным кукарэку!..

**Іосіф ВАСІЛЕЎСКІ**

## НЕЧАКАНАЯ ПРАПАНОВА

Ну, давай з табой
Рабіць шкловалакно...

З песні
А. ДЗЕРУЖЫНСКАГА.

Нейкай раніцай,
А можа, і ў абед,
Ішоў па вуліцы расхрыстаны
паэт.
Раптам дзеўчыне пагрукаў
у вакно:
— Ну, давай з табой рабіць
шкловалакно.
А дзяўчына спахмурнела:
— То падман,
Так знянацку наш не
склеіцца раман.
Ці ты, хлопец, недаспаў
Альбо п'яны?
Так уток парвацца можа
і шкляны.

Мал. А. ГАРМАЗЫ.




З 22 ПА 28 МАЯ

22 мая, 19.20
**«РАДАВОД»**
Фальклорны відэаканал на гэты раз закранае пытанні сучаснага бытавання фальклору, розных форм яго апрацоўкі.

22 мая, 21.50
**«МУДРАМЕР»**
Прэм'ера тэлевізійнага мастацкага фільма.
Аўтар сцэнарыя М. Матукоўскі. Рэжысёр В. Панамароў.
Ролі выконваюць: Б. Брандукоў, В. Тарасаў, Т. Васільева, В. Гогалеў.

23 мая, 21.55
**«ЛІРА»**
Мастацка-публіцыстычная праграма, прысвечаная праблемам захавання архітэктурнай спадчыны.
Вядучыя У. Сцепаненка і Г. Суша.

24 мая, 21.50
**«У ТЭАТРАХ РЭСПУБЛІКІ»**
А. Папова. «Жыццё Карыцына».
Спектакль Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Рэжысёр М. Пінігін. У ролях: С. Краўчанка, н. а. БССР П. Кармунін, з. а. БССР Т. Аляксеева, артысты А. Іваннікава, З. Белахвосцік і іншыя.

26 мая, 19.50
**«НА ПРЫНЁМАНСКІХ ПРАСТОРАХ»**
Літаратурна-мастацкі часопіс.
Вы пазнаёміцеся з творчасцю гродзенскага мастака У. Кіслага, даведаецеся пра мастацкага кіраўніка Гродзенскага опернага тэатра XVIII стагоддзя, вядомую спявачку Беларусі, Літвы, Польшчы С. Дэшнер.

27 мая, 12.05
**«МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ»**
Успамінае У. І. Мазур.

27 мая, 16.15
**«МІНСК МУЗЫЧНЫ»**
Справаздачны канцэрт аб'яднанага хору Беларускага тэлебачання і радыё і Белдзяржкансерваторыі.

27 мая, 18.00
**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**
Працяг размовы з аўтарам «Старажытнай Беларусі» М. Ермаловічам.
Расказ пра юбілей І. Гурскага, знаёмства з навінкамі перыядычнага друку.
Чакае вас і падарожжа з А. Вольскім па купалаўскіх мясцінах беларускай сталіцы.
Вядучая — пісьменніца Л. Паўлікава.

27 мая, 19.25
**«БЕЛАСТОЦКАЯ СЦЭНА»**
Дадатак да праграмы «Тэатр і час». Адбудзецца знаёмства з тэатрам лялек і драматычным тэатрам імя А. Венгерні з Беластока.
Вядучы — кандыдат мастацтвазнаўства В. Ракіцкі.

28 мая, 15.20
**«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»**
В. Сярых, М. Стральцоў. «Развітальная». Выконвае Я. Навуменка.

28 мая, 19.20
**«ПАЭЗІЦ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**
Вершы балгарскага паэта П. Явара ў перакладзе В. Сахарчука чытаюць Ф. Варанецкі і Г. Маляўскі.

28 мая, 19.25
**«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ»**
«Становішча мастака і творчы працэс у мастацтве» — так аўтары вызначылі тэму гутаркі, у якой прымаюць удзел мастак з Югаславіі Міліч ад Мачвы, мастак Б. Казакоў, супрацоўнік Саюза мастакоў БССР А. Дабравольскі, прадстаўнік грамадскай інспекцыі Таварыства аховы помнікаў Л. Міронава і іншыя.
Вядучы — У. Сцепаненка.

28 мая, 23.25
**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**
Інфармацыйна-музычная праграма.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

Р. БАРАДУЛІН. Белая яблыня грому. Пераклад з беларускай. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 1 р. 30 к.

Л. ГАЛУБОВІЧ. Споведзь бяссоннай душы. Лірычны дзённік. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989.—85 к.

В. КАРАМАЗАЎ. Глядзіце ў вочы лемуру. Аповесць-эсэ. Мн., «Юнацтва», 1989. — 25 к.

М. ЛУЖАНІН. Трое. Аповесці, апавяданні, эсэ. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989.—1 р. 80 к.

Я. ЧАЧОТ. Наваградскі замак. Творы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 1. р. 80 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 05234 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы—33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі—23-73-37.